ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 28
(2586)

16 ліпеня 1998 г.
Выдаецца з 1955 г.

Цана 2000 рублёў.

ДЗЕНЬ РЭСПУБЛІКІ







**Тры дні, 3—5 ліпеня, адзначала Беларусь Дзень рэспублікі. У гэты дзень цяпер уваходзяць і Дзень вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і Дзень незалежнасці. А сталіца яшчэ святкавала і Дзень горада. Такога размаху "народных гулянняў" не ведала нават Беларусь савецкая.**

**НА ЗДЫМКАХ: ваенны парад у Мінску; мінчане адзначаюць Дзень горада; фрагмент авіяцыйна-спартыўнага свята.**

**Фота Генадзя СЯМЁНАВА. БелТА.**

# СВЯТЛО І СПЕЎ МІЛАСЭРНАГА ХАРАСТВА

**РОЗДУМ ПАСЛЯ "ПАМІНАЛЬНАЙ МАЛІТВЫ" НА СЦЭНЕ НАЦЫЯНАЛЬНАГА АКАДЭМІЧНАГА ТЭАТРА ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ**

Гэты спектакль іграецца купалаўцамі дзесяты год. Дасціпны. Прасякнуты гаркаватай іроніяй. З трагедыйным адценнем ва ўсіх прыгодах усіх персанажаў — ад галоўнага, чыё імя гучыць у мастацтве, бадай, нароўні з імёнамі Фальстафа або Дон Кіхота, зухаватага салдата Швейка або Хаджы Насрэдзіна... Тэўе з вёскі Анатаўка на Палессі, што недзе ў так званых межах "аседласці", тэрыторыі, на якой царская ўлада паблажліва дазваляла стала жыць яўрэям. У склад пятнаццаці губерняў тае "мяжы" траплялі і абшары Беларусі.

Спектакль, прэм'ера якога адбылася ў траўні восемдзесят дзевятага года, пастаўлены рэжысёрам Б. Эрыным у дэкарацыях мастака Б. Краснова, з музыкай А. Рэнанскага і харэаграфіяй С. Дрэчына. Тэатральная Анатаўка нагадвае паселішча паблізу якога Рагачова альбо Рэчыцы. І хоць раскватана-маляўнічы лад відовішча робіць моцнае ўражанне, асноўныя рэаліі адлюстраванага на падмостках жыцця ўспрымаюцца надта праўдападобнымі. Праз гумар і адчай, праз дасціпную мудрасць і легкадумную летуценнасць герояў прабіваецца настойлівае перакананне: так, мяноўна так і было некалі ў нашым краі.

Дык што, можа, спектакль выглядае гэткім своеасаблівым плачам па сынах Ізраілевых, што бедавалі пад нашым небам? Але, і плачам. Ды не толькі плачам-успамінам. Рэжысура тонка адчула паэтычную падаплёку творчасці Шолам-Алейхема, паводле прозы якога і ствараліся Р. Горыным п'еса "Памінальная малітва" (пераклад на беларускую мову У. Някляева). Адгалоскі песні — у плачу, і слёзы на тварах захопленых карагодам вясковых танцораў. З вясёлага карагода, які спачатку ўспрымаецца ці не як бязвоблачна жыццярадасны, спектакль і пачынаецца.

Карагод стракаціць рознымі фарбамі адзення, усмешлівымі тварамі, адмысловымі каленцамі і няўмелым тупаннем, гарэзлівымі позіркамі і нейкай недарэчнай задуменнасцю, відаць, неадчэпнай у пажылых — з доўгімі пэйсамі і ў ярмолках — анатаўскіх старажылаў. Карагод круціцца, уцягваючы ў танцавальны рытм і нашы глядацкія сэрцы. Ды не змаўкае ў ім і шчымлівая сумотная нота. Здаецца, што вунь той або гэты зачапіўся рукой за партнёра і пусціўся ў скокі, каб не заплакаць пры людзях, а нехта выдае сябе за азартнага танцора, бо і тваё жыццё, што ні кажы, толькі кароткае імгненне ў спрадвечным сусвеце[illegible]оэба карыстацца любым ві[illegible]кам, які дазваляе табе ўдо[illegible]аль натанцавацца, пасняваць, каўтнуць кілішак хмельнага пітва, пацалавацца з любай. У карагодзе нібы партрэты тыпаў: дасціпны жартаўнік і пахмурны недаверак, неаба[illegible]ы жыццялюб і схільны да а[illegible] пасля першай аплявухі лёсу, фанабэрлівы ганарлівец з высока ўзнятай галавой і пакорлівы паслугач чужой улады.

Звяртаю ўвагу на гэты зачын спектакля, які потым адгукаецца трансфармаваным паўторам у фінале, бо танцавальны карагод арганічна ўпісаны ў мастацкую тканіну відовішча як яго выяўленча-рытмічны кампанент, які ўводзіць гледача ў рэчышча сучаснай сцэнічнай версіі "свету Шолам-Алейхема".

Не, я не адношу сябе да знаўцаў "свету Шолам-Алейхема". Але мне пашчасціла сядзець на адным з прэм'ерных спектакляў "Памінальнай..." побач з нашым слынным маэстра Заірам Азгурам. Я адчуваў, як узрушыў яго тэатр у той вечар. Ужо ў антракце ён усхвалявана гаварыў, што выканаўцы роляў на гэты раз паўсталі перад ім майстрамі, купалаўцамі ў лепшым значэнні гэтага слова. Яны ў сваім мастацтве гранічна наблізіліся да жыццёвага праўдападабенства, у якім нават непаўторная яўрэйская мелодыка беларускай мовы трымціць без нам дакучлівай аднастайнасці і той акцэнтоўкі, што, бывае, "расквечвае" анекдоты ў вуснах стараннага расказчыка.

Местачковае жытло Тэўе і ягоная ўласнасць — кола ад фурманкі, кабанчык-пудзіла, швейная машына, пасрэбраны сямісвечнік. Бутафорская кабыла, на якой спраўны балагол возіць са сваёй Анатаўкі па суседніх мястэчках ды вёсках малако, вяршкі і сыры, — адкрыта дэкарацыйная дэталь, але ўспрымаецца і як жывая істота, увасобленая на сцэне "старым" прыёмам традыцыйнай тэатральнасці. Заір Азгур вылучаў у партытуры відовішча "дозы" амаль што натуральнай пабытавай рэальнасці з "дозамі" хітраватага сцэнічнага гумару і нават іранічнай усмешкі. Але, і я таксама адчуваю ў гэтым драматычным спектаклі мудрую ўсмешку яго творцаў. Усмешку, якую яўрэй называе "мёдам напалову з гарчыцай".

То ўсмешка Шолам-Алейхема.

— Не зусім, не зусім, — удакладняў Заір Азгур. — Хутчэй за ўсё гэта — ад Тэўе. Ты звярнуў увагу, што і па мізансцэнах Тэўе амаль заўсёды ў цэнтры? Гэта ад яго разыходзяцца промні прыхавана горкай мудрай усмешкі. Як добра, што Аўгуст Мілаванаў не пнецца дацягнуцца, скажам, да Саламона Міхоэлса ў гэтай ролі і не паўтарае таго, што робіць у ёй Міхаіл Ульянаў... Але, я згодны з табой: няма ў яго і таго, што было пафасам у вобразе, які стварыў у шэсцьдзесят, здаецца, трэцім годзе ў Тэатры імя Коласа наш чараўнік Аляксандр Ільінскі. Так-так, у Шурыка Тэўе, я помню, быў ад прыроды мудрацом, і жыццёвыя здарэнні вымушалі яго ўголас размаўляць з Богам і сусветам са сваёго амаль жабрацкага прытулку. А Мілаванаў? Гэты больш выглядае зусім звычайным і па-свойму разумным мужыком. Мудрым яго пакрысе робіць жыццё. Вучыць тымі аплявухамі лёсу, якім яно ў яго пазначана...

**(Заканчэнне на 6-й стар.).**

ЦЯЖКІ ШЛЯХ

# НАЦЫЯНАЛЬНА-КУЛЬТУРНАЕ АДРАДЖЭННЕ БЕЛАРУСІ

**Сучасным пакаленням, і перш за ўсё моладзі, важна ведаць гісторыю свайго народа, пазнаць і асэнсаваць дасягненні ва ўсіх сферах сацыяльна-эканамічнага, палітычнага і духоўнага жыцця, аб'ектыўна ацаніць яго набыткі і страты. У гэтай сувязі хочацца спыніцца толькі на адным, але вельмі важным аспекце праблемы — на складанасці працэсаў нацыянальна-культурнага адраджэння, якія праходзілі ў Беларусі ў 20-я і другой палове 80-х — 90-х гадоў.**

**Адразу ж агаворваюся, што не прэтэндую ні на вычарпальную паўнату, ні на завершанасць аналізу ўзнятай тэмы, тым больш у межах газетнага артыкула.**

## І. АДРАДЖЭННЕ ЦІ ДЫКТАТУРА ПРАЛЕТАРЫЯТУ?

Гістарычная памяць і нацыянальная самасвядомасць заўсёды жывуць і захоўваюцца ў глыбінях душы народнай, у нацыянальным побыце, традыцыях, звычаях, культуры і цесна звязаны з эканамічным і палітычным укладам нацыі.

На працягу свайго шматвяковага існавання ў беларусаў, як і ў кожнага народа, былі ўзлёты і падзенні. Унёсшы неацэнны ўклад у сусветную культуру ў перыяд Вялікага Княства Літоўскага, ён не пазбег сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту спачатку з боку Рэчы Паспалітай, а затым Расійскай імперыі. Выпрабаванні, якія выпалі на долю беларусаў на працягу стагоддзяў, у тым ліку і ў параўнальна кароткі савецкі перыяд, было пад сілу вытрымаць не кожнаму народу, а гэта сведчыць, што наш народ мае моцныя генетычныя карані, высокі фізічны і маральны дух.

**(Заканчэнне на 4-й стар.).**

ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

СЕМІНАР У БРУСЕЛІ

## ЕЎРАСАЮЗ І ЧАРНОБЫЛЬСКІЯ ПРАБЛЕМЫ

**Тэма супрацоўніцтва Беларусі, Расіі і Украіны з Еўрапейскім саюзам па праблемах рэабілітацыі зямель, забруджаных чарнобыльскім попелам, гучала на спецыяльным семінары, які прайшоў у Брусэлі. Па запрашэнні Еўрапейскай камісіі ўдзел у ім прыняла дэлегацыя нашай рэспублікі на чале з міністрам па надзвычайных сітуацыях Іванам Кенікам. У дыскусіі таксама прынялі ўдзел вучоныя з Вялікабрытаніі, Швецыі, Нарвегіі, Германіі і Францыі.**

**У ходзе семінара была выпрацавана агульная стратэгія па ажыццяўленню мер, што садзейнічаюць атрыманню чыстай сельскагаспадарчай прадукцыі, аказанню псіхалагічнай дапамогі людзям, дэзактывацыі населеных пунктаў. Выпрацавана таксама тэматыка далейшых даследаванняў у данай галіне, якая перададзена прадстаўнікам Беларусі, Расіі і Украіны з мэтай вызначэння аб'ёму магчымага фінансавання праектаў Еўрапейскім саюзам. Аднак канчатковае іх зацвярджэнне павінна адбыцца пасля ўзгаднення з Еўрапейскай камісіяй і адабрэння Еўрапарламентам.**

*"Мы адрадзілі спрадвеку ўласцівыя нашаму народу павагу і любоў да мовы, на якой ён размаўляў стагоддзямі: ці то на беларускай, ці то на рускай. Ды тая мова, якую ў нас называюць рускай, гэта таксама наша мова. Яна жыве на нашай зямлі з пакалення ў пакаленне. Яна зззяе ўсімі фарбамі сапраўднай беларускасці. Бо на ёй думае, разважае, на ёй гаворыць вялікая частка беларускага народа.*

*І мы ніколі не дазволім у нашай краіне моўнай дыскрымінацыі, моўнага дыктату. Таму што ад моўнай дыскрымінацыі да генацыду — адзін крок.*

*Няўжо гэта яшчэ каму-небудзь незразумела на фоне тых жахлівых падзей, якія адбыліся і, на жаль, яшчэ адбываюцца на постсавецкай прасторы?"*

А. ЛУКАШЭНКА
Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь.

ДЗЕЛЯ ДАБРА



**Шэсць гадоў працягваецца супрацоўніцтва Беларускага навукова-даследчага інстытута радыяцыйнай медыцыны і эндакрыналогіі і шпіталя з нямецкага горада Ротэнбурга. Штогод беларускія спецыялісты ў галіне прамянёвай дыягностыкі праходзяць стажыроўку ў Германіі. Частыя госці ў клініцы радыяцыйнай медыцыны і нямецкія спецыялісты. Акрамя абмену вопытам сябры з Германіі дапамагаюць клініцы, у якой лечацца пацярпелыя ад аварыі на ЧАЭС, медыкаментамі, абсталяваннем.**

**НА ЗДЫМКУ: шэф радыялагічнага аддзялення клінікі Ротэнбурга Крашчамір КРАСНІК (у цэнтры), загадчык аддзялення прамянёвай дыягностыкі Вадзім ПЕТУХОЎ (злева) і ўрач-радыёлаг Ігар БУЛАЕЎ абмяркоўваюць вынікі даследаванняў на ЯМР-тамографе ў клініцы НДІ радыяцыйнай медыцыны і эндакрыналогіі.**

**Фота Аляксандра ТАЛОЧКІ, БелТА.**

ДЫЯСПАРА

## СУСТРЭЧА З НАСТАЎНІКАМІ

**Асаблівая ўвага з боку Беларусі ўдзяляецца забеспячэнню нацыянальнай адукацыі нашых маладых суайчыннікаў, што пражываюць за мяжой. Гэта матэрыяльная падтрымка нядзельных школ і школ з беларускай мовай навучання, факультэтаў і аддзяленняў беларускай філалогіі, культуры і беларусазнаўства, арганізацыя летняга адпачынку на Бацькаўшчыне, прадастаўленне моладзі беларускага замежжа магчымасці атрымаць на льготных умовах адукацыю ў вышэйшых навучальных установах Беларусі, знаёмства з яе гістарычнымі мясцінамі, павышэнне кваліфікацыі выкладчыкаў беларускай мовы і дысцыплін беларусазнаўчага цыкла з навучальных устаноў замежжа...**

**У гэтым годзе дваццаць настаўнікаў з Расіі, Польшчы, Літвы, Латвіі, Эстоніі прыехалі на курсы, што арганізавала для іх Міністэрства адукацыі Беларусі. Акрамя вучэбных гадзін, у праграме наведванне музеяў, тэатраў, знаёмства з дзейнасцю грамадскіх арганізацый і дзяржаўных устаноў.**

**Адна з такіх сустрэч адбылася ў Дзяржкамітэце па справах рэлігій і нацыянальнасцей. Госці з цікавасцю заслухалі А. Бількa — старшыню камітэта, які расказаў аб камітэце, яго задачах, планах, зробленай рабоце па аказанню дапамогі беларусам замежжа. Настаўнікаў вельмі цікавілі міжурадавыя пагадненні па абароне правоў нацыянальных меншасцей, якія распрацоўвае камітэт. Сёння асабліва гэтае пытанне хвалюе беларусаў Латвіі. Кіраўнікі беларускіх школ выказалі свае прапановы і просьбы, якія абавязкова ўлічацца ў працы камітэта.**

**А пры развітанні ўдзельнікі сустрэчы атрымалі памятныя сувеніры з выявай Ефрасінні Полацкай.**

БУДУЕЦЦА ХРАМ



**Пачалося будаўніцтва Свята-Вазнясенскага храма ў пасёлку Новая Гута Гомельскага раёна на мяжы Беларусі з Украінай. Асвяціць месца закладкі храма, якому ў гонар дружбы двух славянскіх народаў было вырашана даць імёны святых Кірылы, епіскапа Тураўскага, і Феадосія, епіскапа Чарнігаўскага, прыбыў Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі, Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт.**

**НА ЗДЫМКУ: у час асвячэння месца будаўніцтва.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БелТа.**

МЕМАРЫЯЛ

## ПА ЗАКАЗУ КАРАЛЕЎСКАГА ДВАРА

**Капсулу для мемарыяльнага комплексу ахвярам другой сусветнай вайны, які ствараецца па ініцыятыве каралеўскага двара Вялікабрытаніі, вырабіў Віцебскі прыборабудаўнічы завод. Запоўненая зямлёй з месцаў баёў, сабранай актывістамі Беларускага фонду міру на тэрыторыі рэспублікі, капсула дастаўлена ў Англію.**

ВНУ ГОМЕЛЯ

## ТРЭЦІ УНІВЕРСІТЭТ

Гомельскі політэхнічны інстытутператвораны ў тэхнічны універсітэт імя П. Сухога. Такое рашэнне пасля адпаведнай атэстацыі прыняло Міністэрства адукацыі краіны — якраз да 30-годдзя навучальнай установы.

Гэта ўжо трэці універсітэт у Гомелі — пасля Дзяржаўнага універсітэта імя Ф. Скарыны і універсітэта транспарту.

Зараз у тэхнічным універсітэце звыш 2 тысяч студэнтаў.

АБІТУРЫЕНТ-98



**У Беларускім дзяржаўным універсітэце 6 ліпеня пачаліся ўступныя экзамены. У гэтым годзе БДУ праводзіць іх на два тыдні раней звычайнага, каб тыя з абітурыентаў, хто паспяхова здасць уступныя экзамены, але не пройдзе па конкурсу, маглі паспрабаваць шчасця ў іншай навучальнай установе Беларусі.**

**НА ЗДЫМКУ: экзамен на геаграфічным факультэце здае абітурыентка Святлана ЕМЯЛЬЯНАВА.**

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БелТА.**

КУПАЛАЎСКАЕ СЛОВА

## «З АДНОЮ ДУМКАЮ...»

**У чарадзе свят не згубілася яшчэ адна дарагая для кожнага беларуса дата: 7 ліпеня споўнілася 116 гадоў з дня нараджэння нашага вялікага песняра Янкі Купалы.**

**У нядзелю, 5 ліпеня, па традыцыі ў літаратурную Мекку ператварыўся купалаўскі мемарыяльны запаведнік "Вязынка". Сёлета гэты першы філіял Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы адзначае сваё 50-годдзе. Літаратурнае свята "З адною думкаю аб шчасці Беларусі" сабрала нямала прыхільнікаў паэзіі. У ім прынялі ўдзел старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў У. Някляеў і іншыя майстры слова, фальклорныя калектывы з Мінска і Маладзечна.**

**А ў сталічным парку імя Янкі Купалы адбылося цудоўнае свята паэзіі "Палымянае слова Купалы". Адбылося 25-ты раз!**

АДУСЮЛЬ ПАКРЫСЕ

СВЯТА беларускага пісьменства і друку сёлета будзе адзначацца ў Оршы, і пройдзе яно ў першую нядзелю верасня. Да гэтага цэнтрамі яго былі Полацк, Тураў, Навагрудак і Нясвіж.

НА АХОВУ Палесся ад паводак Беларусь плануе выдаткаваць 1 трыльён 200 мільярдаў рублёў у бліжэйшыя шэсць гадоў. Праект будаўніцтва водаахоўных збудаванняў прайшоў экспертызу ў Сусветным банку і кансультатыўным камітэце Нацыянальнай акадэміі навук.

ГАЛОЎНЫМ гандлёва-эканамічным партнёрам Беларусі з'яўляецца Расія. На яе долю прыходзіцца больш за 60 працэнтаў агульнага аб'ёму знешняга гандлю нашай рэспублікі. На сёння Рэспубліка Беларусь падтрымлівае гандлёва-эканамічныя сувязі з усімі краінамі Садружнасці і 119 дзяржавамі блізкага і далёкага замежжа.

АСТАНКІ 124 воінаў знойдзены ў Мастоўскім раёне на месцы баёў з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Імёны 24 з іх устаноўлены дзякуючы медальёнам, якія былі ў месцах захавання чырвонаармейцаў.

У КАЛІНКАВІЦКІМ раёне каля мемарыяла памяці сабраліся былыя непаўналетнія вязні Азарыцкага канцлагера. Падобныя сустрэчы-памінанні сталі ўжо традыцыйнымі. Пяты раз напярэдадні Дня вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў сюды прыехалі былыя дзеці канцлагераў з розных куткоў рэспублікі.

КАНЦЭРТАМ, прысвечаным 200-годдзю з дня нараджэння Адама Міцкевіча, адкрыўся цыкл вечароў у сталічным рымска-каталіцкім архікафедральным касцёле імя найсвяцейшай Марыі Панны. Святочную праграму падрыхтавалі Польскі інстытут у Мінску і творчы калектыў "Беларуская капэла".

МІНСКІЯ МАТОРЫ



**Вытворчае аб'яднанне "Мінскі маторны завод" — адно з самых буйных прадпрыемстваў Рэспублікі Беларусь па выпуску дызельных рухавікоў. З 1964 года трактары "Беларусь", якія выпускаюцца Мінскім трактарным заводам, камплектуюцца рухавікамі Мінскага маторнага завода. І трактары, і іншыя машыны, аснашчаныя рухавікамі ММЗ, экспартуюцца ў многія краіны свету: ЗША, Канаду, Англію, Швецыю.**

**У гэтым годзе на прадпрыемстве запушчаны новы цэх малых серый па вытворчасці шасціцыліндровых дызельных рухавікоў.**

**НА ЗДЫМКУ: у новым цэху зборкі шасціцыліндровых рухавікоў.**

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БелТА.**

КАЛІ ПАШУКАЦЬ ВЫЙСЦЕ

# МАТРОШКА Ў РЫНКАВЫМ ВІРЫ

Не самыя лёгкія часы перажывае сёння дэкаратыўна-прыкладное мастацтва. Так ужо павялося, што любы крызіс у грамадстве няўмольна адбіваецца і на культуры. Асабліва калі ўлічыць, што на яе фінансаванне заўсёды выдаткоўваліся нязначныя сродкі.

Паступова, крок за крокам, выходзіць сёння з крызісу Брэсцкая фабрыка сувеніраў. Такіх цяжкасцей, як пару гадоў таму, яна, мабыць, не ведала за ўвесь час свайго існавання. Сапраўды, калі стаяць заводы, месяцамі не атрымліваюць людзі зарплату, ужо не да сувеніраў. Былыя сувязі парушыліся, большасць партнёраў згубілася ў хвалях рынку, а над прадпрыемствам яшчэ і крэдыт "вісеў", з якім трэба было разлічвацца. Вымушаны былі ліквідаваць філіялы, скараціць штат. З адной тысячы работнікаў засталося 350. На дапамогу рэспубліканскага канцэрна "Беларускія мастацкія промыслы", куды да нядаўняга часу ўваходзіла брэсцкая фабрыка, тут асабліва не разлічвалі. Ці мала такіх у канцэрне? "Выплываць" даводзілася самім.

Як расказаў дырэктар фабрыкі Міхаіл Жураўлёў, тут упарта шукалі выйсце. Каб утрымацца на плыву, давялося часткова перакваліфікавацца. Адкрылі цэх па вытворчасці мэблі: часопісных і кухонных столікаў, палічак, табурэтак. Ён і "выцягваў" прадпрыемства. Але асноўны накірунак работы — дэкаратыўна-мастацкія вырабы — пакінулі. Штогод укараняецца каля 100 найменняў прадукцыі. Апошняя, дарэчы, не дзеліцца па сортнасці. Яна ўся — вышэйшага гатунку. Якасць брэсцкіх сувеніраў прызнана не толькі Рэспубліканскім мастацкім Саветам, яна славіцца і па ўсім свеце.

Сёння фабрыка змяніла "гаспадара": з падпарадкавання канцэрну перайшла ў ведамства Дзяржаўнага нацыянальнага парку "Белавежская пушча". З гэтым пераходам на прадпрыемстве звязваюць пэўныя спадзяванні, найперш, з бесперабойнай пастаўкай высакаякаснай сыравіны, бо з-за частых перабояў з ёю фабрыка падчас змушана парушаць свае дагаворныя абавязкі. Так, няўпраўка з выкананнем французскага заказу. Згодна з дамоўленасцю, туды трэба адпраўляць 300 крэслаў у месяц. А няма сыравіны — парушаецца і графік. Гэта не адзіны замежны заказ. Апошнім часам наладжваюцца сувязі з Германіяй. Немцы ахвотна набываюць нашы матрошкі і саламяныя вырабы. А нядаўна на пяць гадоў заключылі кантракт з грамадзянінам Злучаных Штатаў, які дае яму эксклюзіўнае права гандлю матрошкамі. Дарэчы, гэтыя матрошкі — "Рэгбі" (амерыканскі футбол) — робяцца спецыяльна пад заказ. У нашых магазінах іх не знойдзеш.

Пабольшала сёння і айчынных заказаў: з Нацыянальнага алімпійскага камітэта, Міністэрства фізкультуры і спорту, Акадэміі Міністэрства ўнутраных спраў, аб'яднання "Мінсктурыст", Міністэрства замежных спраў Беларусі і г. д. Пастаўляецца прадукцыя, вядома, і ў гандлёвую сетку. Тут, праўда, пэўныя цяжкасці. На сённяшні дзень гандлёвыя прадпрыемствы рэспублікі маюць запазычанасць перад фабрыкай каля двух мільярдаў рублёў.

Але, нягледзячы на гэта, працягваецца работа, распрацоўваюцца і ўкараняюцца новыя мадэлі. Адна з апошніх навінак — цэлая серыя беларускіх лялек. "Апранутыя" ў нацыянальныя касцюмы, распісаныя інкрустацыяй, яны зіхацяць і пераліваюцца так, быццам апрацаваны каштоўнымі камянямі. Спадабаліся яны і замежным турыстам.

Якаснае выточванне вырабаў мала залежыць ад станкоў, абсталявання. У аснове — ручная праца. А ў ёй — свае тонкасці, набытыя гадамі. Да брэстаўчан таксама не адразу ўсё прыйшло. Перш чым дасягнуць сённяшняга ўзроўню, набілі не адну шышку. Напрыклад, колькі часу патрацілі, каб навучыцца высакаякасна апрацоўваць салому! Злакі, як вядома, падкормліваюць рознымі ўгнаеннямі — адсюль цёмныя кроплі і плямы. А з імі салома для вырабаў непрыдатная, яна патрабуе апрацоўкі: ачышчэння, сушкі, афарбоўкі. Каб спасцігнуць гэтыя "сакрэты", сёння прыязджаюць дэлегацыі з розных рэгіёнаў Беларусі.

Самой распрацоўкай асартыменту тут на чале з галоўным мастаком Юльянам Развадоўскім займаюцца яшчэ тры мастакі і некалькі эксперыментатараў. Гэта яны мудруюць над новымі вобразамі і выявамі. Разлік норм расходавання сыравіны і фарбы — справа тэхнолагаў. Эмалі, дарэчы, у сваёй большасці айчынныя. А вось лакі — выключна нямецкія: перасягаюць нашы па якасці і больш эканомныя па расходу.

Галоўны тэхнолаг вытворчасці Галіна Глаголева адзначыла, што асноўнай задачай на прадпрыемстве лічаць высокую якасць пры нізкай цане. З апошняй, праўда, складана. Для прыкладу, дзесяцімесная матрошка каштуе каля 700—800 тысяч рублёў. У недалёкія часы кошт працы ў цане гатовага вырабу складаў 30 працэнтаў. Сёння — толькі 8. Астатняе — падаткі і энерганосьбіты.

Напрыканцы колькі слоў хочацца сказаць пра сам калектыў. Працуюць тут энтузіясты, іх не палохаюць ні мізэрныя заробкі, ні велізарная нагрузка. У калектыве ўсталяваўся своеасаблівы творчы клімат, нейкая эмацыянальная еднасць. Сталыя работнікі памятаюць



многіх вядомых людзей, што ў свой час працавалі на фабрыцы. Так, большую частку жыцця аддала ёй Вера Гаўрылюк, чалавек, які адрадзіў саломапляценне на Беларусі. Працавалі тут вядомы рэзчык па дрэву Дзмітрый Сакаржынскі, мастакі Вячаслаў Панамароў і Аляксей Бакуненка, народныя ўмельцы Андрэй Венярскі і Аляксандр Палычоў — адным словам, людзі, што стаялі ля вытокаў развіцця дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

Гаворачы аб пераемнасці пакаленняў, нельга не думаць і пра дзень заўтрашні. Патрэбную, добрую справу ў гэтым накірунку робяць у Кобрыне, дзе існуе вышэйшае вучылішча выяўленчага мастацтва. Там створаны тры ступені адукацыі, і на фабрыцы спадзяюцца на прыход маладых таленавітых кадраў. Бо што ні кажы, а будучыня — найперш за імі. І хочацца, каб у сённяшніх работнікаў фабрыкі сувеніраў былі годныя паслядоўнікі, якім смела можна было б даручыць далейшае развіццё дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

**Святлана ШАБЛІНСКАЯ.**

ДЗЯТЛАВУ — 500 ГАДОЎ







**Не часта здараюцца маштабныя падзеі ў глыбінцы, дзе жыццёвая плынь спакайнейшая, чым у сталіцы ды нават і ў абласных цэнтрах. Менавіта пра такую нештодзённую падзею яшчэ доўга будуць помніць жыхары Дзятлаўскага раёна Гродзенскай вобласці. У канцы чэрвеня іх самаму важнаму гораду — раённаму цэнтру Дзятлава споўнілася 500 гадоў. Вядома ж, з гэтай нагоды адбыліся святочныя ўрачыстасці. З гэтай жа нагоды атрымалі дзятлаўцы і віншаванне ад Прэзідэнта Беларусі.**

**Пасля Вялікай Айчыннай вайны Дзятлаўшчына недалічылася больш за 12 тысяч жыхароў, многія з якіх загінулі на франтах і ў партызанскіх атрадах. 5 спаленых вёсак, 28 брацкіх магіл, 56 абеліскаў і помнікаў загінуўшым нагадваюць аб страшных гадах ліхалецця.**

**"На вашай цудоўнай зямлі ёсць героі, якімі вы ганарыцеся. Побач з імі — радавыя працаўнікі. Яны вучаць дзяцей, лечаць хворых, пякуць хлеб, водзяць аўтамабілі, будуюць дамы. Кожны з вас — часцінка цяперашняга Дзятлава, часцінка яго гісторыі", — гаворыцца ў пасланні кіраўніка дзяржавы.**

**Многа цудоўных месцаў і таленавітых людзей на дзятлаўскай зямлі. Хто не ведае аздараўленчы комплекс "Баравічок" — менавіта сюды імкнуцца бацькі адправіць на лета сваіх дзяцей. Бо тут і сучасныя камфортныя пакоі, і лепшае медыцынскае абсталяванне, і каларыйная ежа.**

**У "Баравічку" праходзяць курс лячэння і адпачываюць школьнікі ад 7 да 15 гадоў.**

**Сярод людзей, якімі ганарацца ў Дзятлаўскім раёне, — Валянціна Лішык.**

**Беларуская мова і літаратура, якія выкладае вось ужо больш 25 гадоў Валянціна Міхайлаўна, — любімы прадмет вучняў Казлоўшчынскай сярэдняй школы. Вучні Валянціны Міхайлаўны — актыўныя ўдзельнікі штогадовых раённых, абласных і рэспубліканскіх алімпіяд. У гэтым навучальным годзе на рэспубліканскай алімпіядзе вучаніца 10 класа Марына Скрундзь заняла першае месца. У тым немалая заслуга і яе выкладчыцы Валянціны Міхайлаўны.**

**НА ЗДЫМКАХ: так выглядае цэнтральная плошча Дзятлава; добры настрой у дзяцей, якія адпачываюць у санаторыі "Баравічок"; настаўніца беларускай мовы і літаратуры Валянціна ЛІШЫК са сваімі вучнямі.**

**Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА, Аляксандра ТАЛОЧКІ, БелТА.**

# ЖЛОБІН — ГОРАД ЦАЦАК

Калі ў Жлобіне пабудавалі Беларускі металургічны завод па перапрацоўцы другаснай сыравіны, яго сталі называць горадам металургаў. Аднак не меншую славу Жлобіну прынесла і фабрыка штучнага футра (цяпер — адкрытае акцыянернае таварыства "БелФА"). Менавіта дзякуючы апошняй, гэты старажытны горад на Дняпры ў адначассе пераўтварыўся ў казачны горад цацак. Прытым стаў вядомым не толькі ў акрузе, а нават і на абсягах былога СССР.

Пасажырскія цягнікі, якія курсіруюць з Прыбалтыкі на чарнаморскі поўдзень, на чыгуначным вакзале ў Жлобіне літаральна трапляюць у асаду мясовых "карабейнікаў". Каго з плюшавых "братоў нашых меншых" тут толькі ні ўбачыш: гэта сланы і мядзведзі, зайцы і вавёркі, малпы і кракадзілы, каты і сабакі... І ўсе— розных расфарбовак і памераў. Як кажуць, на любы густ: выбірай, плаці грошы — і атрымлівай сувенір на памяць... Колькі ж пасажыраў, што праязджаюць праз Жлобін, набылі мяккія цацкі тутэйшых майстроў, немагчыма і падлічыць.

...Пачуўшы раптам голас правадніцы: "Наш цягнік прыбывае на станцыю Жлобін", ведайце: на пероне вас чакае сапраўдны цуд. Хутчэй спяшайцеся ў тамбур цягніка — і вы тут жа трапіце на імправізаваны кірмаш шматколерных цацак. У тым жа, што ваша рука міжволі пацягнецца ў кішэню за грашыма, можаце не сумнявацца: убачыўшы такую казачную прыгажосць, грэх не спакусіцца.



Фота Віктара СТАВЕРА.

# НАЦЫЯНАЛЬНА-КУЛЬТУРНАЕ АДРАДЖЭННЕ БЕЛАРУСІ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

У нацыянальна-культурным адраджэнні Беларусі ў савецкі, паслякастрычніцкі перыяд, можна выдзеліць два асноўныя перыяды — 20-я і другую палову 80-х — 90-я гады. Яны мелі як свае агульныя рысы, так і асаблівасці і тэндэнцыі і з'яўляліся вырашальнымі этапамі эканамічнай і палітычнай перабудовы грамадства, яго духоўнага абнаўлення і нацыянальнага адраджэння. Гэтыя працэсы, нягледзячы на паспяховы ў цэлым ход, у савецкі і паслясавецкі перыяды былі складанымі і супярэчлівымі.

У новай гістарычнай сітуацыі, якая склалася ў 20-я гады ў выніку Кастрычніцкай рэвалюцыі, узнікла рэальная магчымасць нацыянальнага адраджэння беларускага народа. Але для гэтага неабходна было сцвердзіць у свядомасці беларусаў перакананне ў самабытнасці іх народа, самабытнасці іх культуры, адначасова псіхалагічныя рысы, што абумоўліваюць адчуванне зблізкення са сваім этнасам (родам, племем, нацыяй), а праз іх — са сваім краем, з памяццю продкаў. Іншымі словамі, забяспечыць неабходныя гістарычныя перадумовы адраджэння і развіцця нармальнага культурна-нацыянальнага працэсу. Аднак гэты працэс стрымліваўся незавершанасцю кансалідацыі беларускай нацыі, якая заявіла аб сабе ў выніку зменаў, звязаных з уключэннем Беларусі ў канцы XVIII стагоддзя ў склад Расійскай імперыі, ва ўмовах паступовага ўцягвання яе эканомікі ў сістэму ўсерасійскага рынку, развіцця капіталістычных адносін. Нагадаем, што згодна з філасофскім слоўнікам, нацыя — ад лацінскага слова "племя, народ" — гістарычная супольнасць (агульнасць) людзей, якая складваецца ў ходзе фарміравання агульнасці іх тэрыторыі, эканамічных сувязей, літаратурнай мовы, некаторых асаблівасцей культуры і характару.

Задачу завяршэння працэсу фарміравання беларусаў як нацыі ва ўмовах сацыялістычнага будаўніцтва павінна была ўзяць на сябе савецкая ўлада, абапіраючыся на нацыянальна-палітычны рух, які зарадзіўся ў Беларусі ў XIX стагоддзі і актывізаваўся ў пачатку XX стагоддзя. Аднак працэсы нацыянальнай кансалідацыі і культурнага адраджэння тармазіліся нізкім эканамічным узроўнем развіцця Беларусі, імперыялістычнай вайной і разбурэннем. Урон толькі ад польскай акупацыі склаў звыш 52 мільёнаў рублёў у даваеннай залатой валюце. За шэсць гадоў вайны з 715 прадпрыемстваў 480 былі разбураны. Пасяўныя плошчы скараціліся больш чым на трэць, колькасць жывёлы зменшылася напалову. Фізічныя і вытворчыя сілы народа аказаліся гранічна аслабленымі.

Нізкаму ўзроўню эканамічнага развіцця краю спадарожнічаў жабрацкі ўзровень жыцця народа. А гэта ў спалучэнні з векавой, спачатку паланізатарскай палітыкай кіруючых колаў Польшчы, а затым, пасля яе падзелу, русіфікатарскай палітыкай царызму мела свае цяжкія вынікі: неразвітасць нацыянальных форм культуры, комплекс непаўнацэннасці роднай мовы, як мовы "мужыцкай", "хапонскай", якая не дае ніякіх правоў, а толькі выклікае насмешкі, сфарміраваны ў свядомасці беларускага сялянства.

Вырашэнне пытанняў, звязаных з нацыянальна-культурным будаўніцтвам, у Беларусі ўскладнялася той акалічнасцю, што ў 1921 годзе ўся Савецкая Беларусь месцілася ў межах шасці паветаў былой Мінскай губерні. Як вядома, у хуткім часе пасля ўтварэння БССР (студзень 1919 года) Віцебская, Смаленская і Магілёўская губерні з большай колькасцю беларускага насельніцтва былі далучаны да РСФСР, што тлумачылася пагрозай іх захаплення і далучэння да буржуазна-памешчыцкай Польшчы.

Частка партыйных і савецкіх работнікаў, займаючы вялікадзяржаўныя шавіністычныя пазіцыі, выступала супраць уз'яднання гэтых рэгіёнаў з БССР. Спатрэбіўся час і велізарныя намаганні дзеячаў культуры і беларускага нацыянальнага руху, які падтрымала партыйна-дзяржаўнае кіраўніцтва БССР, каб пераадолець [illegible] тэндэнцыі і далучыць да рэспублікі тэрыторыі, аднародныя з БССР у гістарычным развіцці, эканамічных і этнаграфічных адносінах.

Адной з перашкод у ажыццяўленні нацыянальнай палітыкі ў БССР, паспяховым правядзенні беларусізацыі з'яўлялася распаўсюджанасць у недалёкім мінулым на тэрыторыі Заходняга краю дробнабуржуазных нацыянальных, а таксама сіяністкіх партый і арганізацый.

Нагадаю для прыкладу, што ў кансерватыўна-манархічным лагеры на Беларусі ў 1905—1907 гадах дзейнічалі палітычныя арганізацыі: таварыства "Крестьянин" (Вільня), партыя "правого порядка" (Гродна), "Православное братство" (Мінск), розныя рэлігійна-клерыкальныя фарміраванні. Усе яны з'яўляліся адгалінаваннямі манархічнага "Саюза руского народа", імкнуліся ўмацаваць свае эканамічныя і палітычныя пазіцыі і тым самым забяспечыць непахіснасць асноў самадзяржаўя ў Беларусі.

Пасля паражэння першай рускай рэвалюцыі ў кансерватыўна-манархічным лагеры адбылася палярызацыя палітычных сіл. Паміж дзвюма кірункамі — ліберальна-буржуазным і кансерватыўна-манархічным — абвастрыліся супярэчнасці. Манархісты не прызнавалі права беларускага народа на самавызначэнне і стварэнне ў той ці іншай форме нацыянальнай дзяржаўнасці. Беларусь заўсёды ўяўлялася ім як частка "адзінай і непадзельнай Расіі", а беларуская мова — "органической ветвью великого русского языка".

Прыхільнікі ліберальна-буржуазнага лагера, хоць у цэлым і падтрымлівалі палітыку царызму, тым не менш усведамлялі неабходнасць нацыянальнай самастойнасці беларускага народа ў межах Расійскай дзяржавы.

У пачатку першай сусветнай вайны ў Беларусі выразна праявілася тэндэнцыя да збліжэння манархічных і ліберальных арыентацый у рамках адзінага блока. Калі раней ідэолагі кансерватыўна-манархічнага лагера наогул адмаўлялі наяўнасць беларускага пытання, то да пачатку 1917 года яны ўжо дапускалі магчымасць яго вырашэння ў агульным патоку ліберальна-дэмакратычных рэформ.

Беларуская сацыялістычная грамада (БСГ) (1903—1918) — прытрымлівалася рэвалюцыйна-дэмакратычнай арыентацыі, была выказніцай ідэй сялянскага сацыялізму, адстойвала думку аб незалежнасці Беларусі.

Лютаўская буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя паклала пачатак працэсу размежавання БСГ. Правае яе крыло прапаведавала ідэю стварэння самастойнай беларускай дзяржавы ў форме буржуазна-дэмакратычнай рэспублікі. Левае, пад кіраўніцтвам З. Жылуновіча, падтрымлівала лева-радыкальныя лозунгі бальшавікоў, бачыла дзяржаўнасць Беларусі ў форме савецкай рэспублікі, якая знаходзілася б у федэратыўнай сувязі з Савецкай Расіяй.

На III з'ездзе БСГ, які адбыўся ў кастрычніку 1917 года, выявілася вострае супрацьстаянне левай і правай плыняў. З. Жылуновіч, з'яўляючыся лідэрам левага крыла Беларускай сацыялістычнай грамады, надаваў першаступеннае значэнне вырашэнню нацыянальнага пытання аб дзяржаўным і культурным самавызначэнні беларускага народа. У гэтым ён разыходзіўся з поглядамі кіраўнікоў Паўночна-Заходняга абласнога камітэта РКП(б) А. Мясніковым, В. Кнорыным, К. Ландэрам і іншымі, якія адводзілі нацыянальнаму пытанню другараднае значэнне і адкрыта заяўлялі, што не лічаць беларускі народ асобнай нацыяй, а толькі адгалінаваннем рускай. Для гэтых палітычных сіл беларуская нацыянальная культура ўяўлялася сваёго роду псіхалагічнай перашкодай для здзяйснення іх утапічных праектаў пабудовы унітарнага, або безнацыянальнага "камунізму".

Не хто іншы, як В. Кнорын, тагачасны сакратар ЦК КП(б)Б (займаў гэтую пасаду са студзеня 1919 года, а ў 1922-м ён служыў у апараце ЦК ВКП(б)), заяўляў, што "беларусы не з'яўляюцца нацыяй і тыя этнаграфічныя асаблівасці, якія іх выдзяляюць ад астатніх рускіх, павінны быць зжыты. Нашай задачай з'яўляецца не стварэнне новых нацый, а знішчэнне старых нацыянальных рагатак. Беларускі ж рух з'яўляецца такім збудаваннем новых нацыянальных рагатак, якія не існавалі да гэтай пары, а таму камуністы не могуць у якім бы то ні было выглядзе браць удзел у гэтым руху".

У 1922 годзе ён першы прапанаваў канцэпцыю гісторыі беларускай літаратуры. Сутнасць яе адназначная: Я. Купала, Я. Колас і ўвесь заснаваны імі накірунак дакастрычніцкай літаратуры былі "народнікамі", гэта значыць ідэолагамі буржуазіі, кулацтва.

Такіх жа поглядаў прытрымліваліся многія члены іншых партый. Увайшоўшы ў РКП(б), яны прытрымліваліся ранейшых ідэйных установак. У 1922 годзе ў РКП(б) налічвалася 22,5 тысячы выхадцаў з іншых партый (5,8 працэнта). У Кампартыі Беларусі іх доля складала 12,3 працэнта, а сярод актыву была яшчэ вышэйшай: у рэспубліканскім партактыве — да 40 працэнтаў, у акружным — да 25. Гэтыя абставіны накладвалі адбітак на склад партыйных, савецкіх, гаспадарчых арганізацый усіх узроўняў: колькасць у іх беларусаў часта была ніжэйшай за палову. Так, у складзе адказных работнікаў паветаў і губерняў Беларусі на 1 студзеня 1925 года з агульнага ліку 911 чалавек беларусаў было 239, яўрэяў — 296, рускіх — 198, палякаў — 44, латышоў — 40, літоўцаў — 14, іншых — 17, без указання нацыянальнасці — 63. У складзе КП(б)Б на першае студзеня 1924 года беларусаў было 30,4 працэнта.

Паспяховаму правядзенню беларусізацыі замінялі істотныя адрозненні паміж горадам і вёскай. Справа ў тым, што ажыццяўленне КП(б)Б задачы — забяспечыць кіраўніцтва рабочага класа сялянствам (у 1926 годзе рабочыя і служачыя з сем'ямі складалі ўсяго 5 працэнтаў насельніцтва Беларусі) натыкаліся на міжнацыянальныя адносіны, характэрныя для Беларусі (сялянін-беларус, рабочы-яўрэй), таму што сярод рабочых Беларусі яўрэі складалі значны працэнт. Акрамя таго ў гарадах рэспублікі сярод рабочых і служачых як да Кастрычніцкай рэвалюцыі, так і пасля яе доўгі час пераважалі асобы некарэннай нацыянальнасці, што нярэдка вяло да пратэсту супраць правядзення палітыкі нацыянальна-культурнага адраджэння. Гэта канстатавалася ў рэзалюцыі XII з'езда РКП(б) (17—25 красавіка 1923 года): "Змычка паміж горадам і вёскай, рабочым класам і сялянствам сустракае вельмі вялікія перашкоды ад вялікарускага шавінізму як у партыйных, так і ў савецкіх органах. У гэтых умовах гутарка аб пераважнасці рускай культуры і высоўванне больш высокай рускай культуры... з'яўляецца не чым іншым, як спробаю замацаваць панаванне вялікарускай нацыянальнасці".

Пра тое ж сведчыць і перапіс насельніцтва ў 1926 годзе, паводле якога ў БССР пражывалі 4 017 301 беларус, або 80,62 працэнта ўсіх жыхароў рэспублікі, сярод сельскага насельніцтва беларусы складалі 89,1 працэнта, а сярод гараджан — толькі 39,26 працэнта. Рускіх было тады ў БССР 383 805 чалавек (7,7 працэнта ўсяго насельніцтва рэспублікі), а яўрэяў — 407 059 чалавек, або 8,19 працэнта. У 1928 годзе Нацыянальная камісія ЦВК БССР прааналізавала нацыянальны склад служачых цэнтральнага і мясцовага апарату БССР на 1925 год. Сярод іх беларусы складалі 59,8 працэнта, рускія — 13,1, яўрэі — 19,1, палякі — 3,4, прадстаўнікі іншых народнасцей — 4,6 працэнта. Значная частка беларусаў-служачых была дэнацыяналізавана і не карысталася беларускай мовай. На канец 1925 года праверка акруговых і раённых устаноў рэспублікі паказала, што 45 працэнтаў служачых не ведаюць беларускай мовы.

Усё гэта так ці інакш адбілася на ажыццяўленні нацыянальнай палітыкі, на ходзе беларусізацыі.

Працэс нацыянальна-культурнага адраджэння ўскладняўся і тым, што старыя рускія чыноўнікі, якіх шмат засталося ў гаспадарчым і дзяржаўным апараце, адносіліся да беларусізацыі рэзка адмоўна, трактуючы яе як насільніцкую. На гэтых пазіцыях стаяла і частка інтэлігенцыі нацыянальных меншасцей, мяркуючы, што іх культурныя запатрабаванні будуць ігнаравацца.

Для іх спрошчаныя, "масавідныя" формы рускай культуры, рускай мовы былі свайго роду сацыяльнай прывілеяй, замацаванай формай эканамічнай і духоўнай эксплуатацыі працоўнага народа.

У перадавым артыкуле "Фундамент рэвалюцыі" Ц. Гартны паведамляў, што ў краіне ўсё яшчэ жывуць носьбіты вялікадзяржаўных, "истинно русских" адносін да нацыянальных культур, іх прыхільнікі будуць супраць беларускай мовы. З горыччу адзначалася ў цыкле яго матэрыялаў "Думкі к часу", што камісар земляробства Хадасевіч і некаторыя іншыя чыноўнікі "кожнага, хто гаворыць па-беларуску, лічаць контррэвалюцыянерамі".

На рэзка адмоўныя вялікадзяржаўна-шавіністычныя адносіны да беларускай мовы і работы па беларусізацыі з боку старога рускага чыноўніцтва, якое знаходзілася на працы ў савецкім апараце, указваў студзеньскі 1925 года пленум ЦК КП(б)Б. Не змяніліся, вядома, погляды большасці з іх і пад канец 20-х гадоў, нягледзячы на тое, што пытанні барацьбы з праявамі вялікадзяржаўнага шавінізму, мясцовага нацыяналізму — беларускага, яўрэйскага, польскага — неадназначна абмяркоўваліся на з'ездах партыі і пленумах ЦК, дзе ацэнкі гэтым з'явам былі вельмі вострымі і нават рэзкімі. Разам з тым метады пераадолення негатыўных з'яў у 1924—1927 гадах не выходзілі за рамкі ідэйнатэарэтычных і выхаваўчых.

Калі ўлічыць недастатковую сацыяльную мабільнасць беларусаў, пераважна сялян, нізкі культурны ўзровень насельніцтва, працяглыя традыцыі існавання народа ва ўмовах дэспатыі, магутныя правыя левардыкальных рэвалюцыянісцкіх настрояў у шматлікіх кіраўнікоў і значнай часткі членаў партыі, асабістыя прэтэнзіі лідэраў на ўладу, барацьбу за яе, бязлітаснасць, нарождаючую грамадзянскай вайной, можна ўявіць, якія цяжкасці сталі на шляху нацыянальна-культурнага адраджэння ў 20-я гады.

Ужо ў другой палове 20-х гадоў нацыянальна-культурнае адраджэнне разглядалася як антыпод сістэме дыктатуры пралетарыяту ў культурным будаўніцтве. З канца 20-х гадоў, ва ўмовах таталітарнага рэжыму, які усталяваўся ў краіне, пачалі дзейнічаць тэрарыстычна-рэпрэсіўныя механізмы адміністрацыйна-валюнтарысцкага ўздзеяння і механізм ідэалагічных маніпуляцый па нацыянальным пытанні. Дзеянне гэтых механізмаў у БССР у 30-я гады прывяло да глыбокай дэфармацыі нацыянальных адносін, усебаковага выцяснення беларускай мовы і разбурэння нацыянальнай культуры, якія аказаліся ў стадыі поўнага занепаду.

Нічога не было зроблена для іх адраджэння і ў перыяд брэжнеўскага застою, калі былі шырока распаўсюджаны тэорыя і практыка не тое што збліжэння — фарсіраванага зліцця нацый, чаму садзейнічалі культурна-нацыянальны нігілізм бюракратычных сфер (а таксама бюракратычных функцыянераў ад навукі і культуры). Усё гэта прывяло да абвастрэння нацыянальных супярэчнасцей у краіне, асабліва ў галіне культуры і моўнай палітыкі.

З сярэдзіны 80-х гадоў Беларусь, знаходзячыся ў складзе СССР, як і іншыя савецкія рэспублікі, уступіла ў перыяд радыкальных эканамічных і сацыяльных пераўтварэнняў.

Аляксандр УРУБЛЕЎСКІ.

*(Заканчэнне будзе).*

НАМ ПІШУЦЬ

# НА МЕСЦЫ ХРАМА — ПАРКІНГ

Беларуская аўтакефальная праваслаўная парафія ў Кліўлендзе заснавана Міхасём Белемуком у 1951 годзе. Напачатку богаслужбы адбываліся ў хаце, пазней — у нанятай залі. У 1957 годзе за ахвяры парафіян купілі памяшканне з пляцам, на якім у 1959 годзе пачалася будова храма, таксама за ахвяраванні прыхаджан. Усе работы на будаўніцтве выконваліся парафіянамі, якія пасля працы прыходзілі, каб працаваць тут да поўначы. Падвал для храма капалі лапатамі, а зямлю адтуль кошыкамі выцягвалі, цэгалкі сваімі рукамі клалі. І храм паступова падымаўся ў вышыню. У верасні 1960 года адбылося ўрачыстае высвячэнне храма Цудатворнае іконы Жыровіцкае Божае Маці. Жыхары Кліўленда дзіваваліся з энтузіязму беларускіх парафіянаў, якіх было не шмат — каля 130 асоб, але якія змаглі збудаваць такі прыгожы храм.

Храм гэты пачаў лічыцца гістарычным помнікам не толькі таму, што змураваны парафіянамі. Упершыню ў XX стагоддзі на яго купале і ў інтэр'еры былі пастаўлены крыжы св. Ефрасінні Полацкай.

На парафіяльнае свята ў 1997 годзе прыехаў уладыка Мікалай. На казанні ён сказаў, што парафія павінна пачаць будову новага храма, бо гэты забірае шпіталь. Прысутныя здзівіліся такому паведамленню. Пару дзён пазней парафіяне атрымалі ад Царкоўнае рады паведамленне, што ў нядзелю 8 чэрвеня 1997 года склікаецца агульны сход парафіянаў у справе продажу храма. На сходзе 39 парафіян з агульнай колькасці 103 прагаласавалі за прапанову Вольгі Дубаневіч і Канстанціна Калошы прадаць храм шпіталю.

На наступным тыдні мітрафорны протаіерэй Анатоль Сегень, беларус, клірык Канстантынопальскай патрыярхіі, і Міхась Белямук, парафіянін Жыровіцкае Божае Маці, паслалі ліст Царкоўнай радзе і парафіянам Жыровіцкае Божае Маці такога зместу: "...Мы хочам купіць царкву Жыровіцкае Божае Маці, бо гэта гістарычны і культавы помнік беларускае эміграцыі ў ЗША. Мы запэўняем Вас і ўсю беларускую эміграцыю, што зберажэм яе ў такім выглядзе, у якім яна ёсьць сёньня з яе назовам "Беларуская Праваслаўная Царква Жыровіцкае Божае Маці.

Мы абяцаем заплаціць Вам больш як Метраполітан госпіталь ці іншая сьвецкая арганізацыя, бо мы — праваслаўныя, хочам уратаваць храм Божы ад знішчэньня".

Ні ўладыка Мікалай, ні Царкоўная рада на чале з Вольгай Дубаневіч на ліст пісьмова не адказалі, але вусна гаварылі, што яны нікому іншаму не прададуць, акрамя шпіталя, а што шпіталь зробіць з храмам, іх не цікавіць.

Зразумела, людзі зрабілі даведкі ў шпіталі, ці сапраўды яму патрэбны храм. Аказалася, што шпіталь не зацікаўлены купляць храм, але члены Царкоўнае рады прыходзілі і прасілі шпіталь купіць храм. Такім чынам, высветлілася, што словы ўладыкі Мікалая на казанні ў 1997 годзе не былі дакладныя і, мякка кажучы, уводзілі людзей у зман.

Прыгадаем, што ў верасні 1960 года гэты ж уладыка Мікалай, а ў той час іерэй Міхал Мацукевіч прысутнічаў на [illegible]чэнні храма і дзякаваў лю[illegible]м за ахвярнасць, энтузіязм, кемлівасць, што пабудавалі прыгожы храм-помнік. Сёння той жа айцец Міхал Мацукевіч, але з тытулам мітрапаліта і Першаіерарха Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, прадае гэты храм-помнік шпіталю, на месцы якога шпіталь зробіць стаянку для аўтаў — паркінг.

Маем пытанне да гэтага Першаіерарха: ці атрымаў ён дазвол ад Хрыста разбураць дом Божы пад паркінг?! Другое пытанне да Першаіерарха, ці мае ён маральнае права нішчыць тое, што ахвярнай працай людзей было збудавана, якіх ужо няма, бо дзве трэція будаўнікоў памерла, іншыя моцна пастарэлі, хварэюць і не маюць сілаў бараніць храм-помнік.

Эміграцыя дакарае беларусаў на Бацькаўшчыне за абыякавасць да гістарычнае спадчыны. А якая пашана ў эміграцыі да гістарычна-культавага помніка ў Кліўлендзе?!

Ведае мітрапаліт Мікалай, ведае Вольга Дубаневіч, Канстанцін Калоша і тыя 37 асобаў, што 8 чэрвеня галасавалі за прадажу храма шпіталю, што шпіталь разбурыць храм, калі яго купіць. Ведаюць аб продажы Кансісторыя БАПЦ, БАЗА, радныя Рады БНР, сябры БІНіМ, газета "Беларус", але маўчаць. Чаму? Ці не таму, што былыя сяляне збудавалі храм? Ці не таму, што намаганнямі М. Белямука на купале і ў інтэр'еры пастаўлены крыж св. Ефрасінні Полацкай, што стала пачаткам адраджэння культу ефрасіннеўскага крыжа ў Беларусі.

Сумніву няма, храм Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлендзе належыць да помнікаў беларускае культуры, і не толькі эміграцыйнай. На Бацькаўшчыне прыйшоў час заступіцца за гэты арыгінальны помнік, каб зберагчы яго нашчадкам.

**М. ПОЛОВЧАНІН.**

ЗША.

# СЛЕД НА ЗЯМЛІ

Прайшоў год, як не стала сярод нас Лявона Луцкевіча. Здаецца, быццам гэта было ўчора, — цёплы ліпеньскі дзень. І раптам страшная навіна: "У адным са шпіталяў Вільні памёр дзядзька Лявон — сын Антона Луцкевіча, выпускнік Віленскай беларускай гімназіі".

У 1946 годзе арыштаваны бальшавіцкімі энкавэдыстамі ў Варшаве, дзе працаваў у бюро адбудовы сталіцы (БОС), і закінуты за калючы гулагаўскі дрот далёкай Калымы больш як на дзесяць гадоў — да 1957 года. Там ад здзекаў і пакутаў пачалася ў яго цяжкая хвароба, якая не давала спакою да канца жыцця і якая стала прычынаю смерці. У 1958 годзе вярнуўся ў Вільню, прапісаўся з цяжкасцю ў Віленскім раёне і да выхаду на заслужаны адпачынак працаваў электрыкам на прадпрыемствах Вільні. Адразу ў Вільні звязаўся з сябрамі: Кастусём Шышэем, Міколам Рулінскім, Лявонам Каралём і іншымі. Пачаў збіраць беларускі архіў, у ягонай калекцыі альбомы з фотаздымкамі гімназістаў, цяпер гэта рэдкія і каштоўныя дакументы гісторыі. Ён вывучаў гісторыю Вільні, падрыхтаваў да друку кнігу "Вандроўкі па Вільні", якая выйдзе ў ліпені гэтага года. Ён увесь час не забываўся пра беларускую мову, культуру, гісторыю, пра ідэалы дэмакратыі на Беларусі.

А калі распалася вялікая дзяржава, а з ёю і рэжым, у Літве (першай) пачалася дэмакратызацыя, тады з'явілася магчымасць і для беларусаў. Лявон Луцкевіч быў адным з ініцыятараў адраджэння беларускага культурнага жыцця ў Вільні. Браў актыўны ўдзел у стварэнні першых беларускіх суполак "Сябрына" і ТБК, зарэгістраваных у 1987 годзе. З-пад яго пяра выйшла шмат артыкулаў, прысвечаных беларускім праблемам. Ён ініцыятар, стваральнік і рэдактар да апошніх дзён перадачы "Беларускае слова на радыёхвалях Літвы". Лявон Луцкевіч узначальваў рэдакцыйную раду старонкі "Беларус Віленшчыны" ў газетах "Эхо Литвы" і "Kurier Vilenski", удзельнічаў у працы рэдакцыі "Рунь". Як і яго дзядзька Іван Луцкевіч быў ініцыятарам стварэння беларускай гімназіі ў Вільні ў пачатку нашага стагоддзя (1919 год), так і Лявон Луцкевіч напрыканцы стагоддзя (1991 год) быў ініцыятарам і актыўным удзельнікам адкрыцця беларускай школы ў Вільні і кафедры беларусістыкі пры Віленскім педагагічным універсітэце. Ён стварыў і ўзначальваў да апошніх дзён ТБШ, працягваючы традыцыі створанага ў 1921 годзе з дапамогай яго дзядзькі і бацькі Антона Луцкевіча. Ён быў адным з першых стваральнікаў беларускага хору і напачатку браў актыўны ўдзел у ім, дапамагаў у выбары рэпертуару, іграў на банджа, зробленым уласнымі рукамі напрыканцы калымскага зняволення.

Нельга пералічыць усяго, што зрабіў для беларускага грамадства Літвы, для гісторыі Бацькаўшчыны гэты руплівы, свядомы чалавек за дзесяць гадоў, калі з'явіліся для гэтага больш-менш спрыяльныя ўмовы. Яшчэ хочацца адзначыць: Лявон Луцкевіч амаль усё жыццё вывучаў гісторыю Вільні ў кантэксце гісторыі Беларусі, асабіста ведаў, а з многімі сябраваў, беларускіх дзеячаў, пісьменнікаў, мастакоў, ён пачаў праводзіць імпрэзы ў ТБК, прысвечаныя людзям, якія пакінулі адметны след у беларускай гісторыі, пра якіх доўгі час было забаронена нават упамінаць. Ад дзядзькі Лявона я ўпершыню пачула пра Адама Станкевіча, Івана і Антона Луцкевічаў, Наталлю Арсенневу, Антона Шантыра, А. Уласава, М. Забэйду, Ларысу Геніюш, Б. Кіта, пра беларусаў замежжа першай эміграцыі. Хоць ён і не меў фармальна вышэйшай адукацыі, але ён быў чалавекам, пра якога гавораць "хадзячая энцыклапедыя". Да яго па дапамогу звярталіся пісьменнікі і дзеячы культуры, гісторыкі з Мінска: С. Панізьнік, В. Іпатава, Г. Каха765оўскі. У. Содаль, А. Ліс, Г. Дзягілева і іншыя. Мне пашчасціла быць знаёмай з Лявонам Антонавічам з 1987 года, быць у яго на кватэры, пазней прыходзіла з вучнямі, ён мне дазваляў карыстацца сваёй багатай бібліятэкай, дапамагаў парадамі ў выбары літаратуры, я так шмат узяла з яго вусных расповядаў.

Дзядзька Лявон — бясцэнны скарб у маёй самаадукацыі, светлы, чысты чалавек, які да апошніх дзён ні пры якіх абставінах не здрадзіў сваім ідэалам, якім верна служыў. Толькі цяпер даведалася ад ягонага даўняга сябра, што ён амаль з дзяцінства бачыў толькі на адно вока. Трэба было мець мужнасць і моц столькі пісаць, друкаваць, чытаць. Ва ўсе часы былі адзінкі сапраўднай, высокаадукаванай інтэлігенцыі, такім быў Лявон Луцкевіч. Цяжка і нязвыкла пра яго гаварыць "быў". Ён пакінуў светлы след на зямлі, назаўсёды застанецца ў сэрцах і памяці тых, хто яго ведаў.

**Леакадзія МІЛАШ.**

г. Вільнюс.

МОЙ КРАЙ — ПУХАЎШЧЫНА

# АЗЯРЫЧЫНА І ВАКОЛІЦЫ

Сярод знакамітых, старажытных вёсак Пухаўшчыны Азярычына згадваецца не так ужо і часта. Хаця гэта унікальны, багаты на гісторыю населены пункт. Верагодней за ўсё Азярычына па часе свайго нараджэння з'яўляецца роўняй іншым старажытным пухавіцкім вёсачкам і вёскам — Дукоры, Дудзічам, Турыну, Пухавічам, Шацку. Вытокі фарміравання Азярычына як населенага пункта хаваюцца недзе прыкладна ў XVI ці мо нават XV стагоддзі. Сярод колішніх гаспадароў вёскі — і славутыя Радзівілы. Вядома ж, род іх бярэ свае пачаткі ад Радзівіла Асцікавіча (?—1477). Ужо ў 1528 годзе Радзівілы мелі ў сваіх маёнтках 18 240 "дымоў". Улічваючы тагачасную шчыльнасць народанасельніцтва, можна толькі ўяўляць, колькі вёсак і вёсачак было ва ўладанні самых вялікіх магнатаў Беларусі. Дарэчы, удакладнім, што ж такое "дым". Гэта "хата, гаспадарка, якія лічыліся падатковай адзінкай у Старажытнай Русі". На старажытнасць Азярычына паказвае і само сучаснае размяшчэнне вёскі. Відавочна, што паселішча фарміравалася пад уплывам рэльефа мясцовасці, таксама ў залежнасці ад размяшчэння ў гэтай прасторы ракі Пціч. І вось што яшчэ. У XIX стагоддзі не так ужо далёка ад [illegible]ярычына, ля вёскі Грабень, [illegible]эвым беразе Пцічы, вядомы беларускі археолаг Канстанцін Тышкевіч (а дакладней — на паўночны ўсход ад вёскі, паблізу балота) даследаваў 44 напаўсферычныя курганы. Знайшоў пры гэтым вучоны папялішчы т[illegible]ў і трупаўкладанні з бедным [illegible]нтаром.

Безумоўна, усё гэта — здагадкі, версіі, хаця і далёка не фантастычныя меркаванні ў дачыненні да ўзросту Азярычына.

Адказ на пытанне, якім паселішчам была вёска на пачатку сучаснага стагоддзя — у даследаваннях мінскага гісторыка Ганны Дулеба: "...вялікая вёска Азярычына Дудзіцкай воласці Ігуменскага павета Мінскай губерні, у якой на той час было 254 двары, 1 680 жыхароў. Побач з вёскай знаходзіўся маёнтак Азярычыны памешчыка Шэвіча, 1 двор, 20 жыхароў, працаваў млын". І яшчэ адзін цікавы, занатаваны Г. Дулеба факт: "У лістападзе 1905 года тут адбылося бурнае сялянскае хваляванне, якое было падаўлена вайсковай камандай. Найбольш актыўныя ўдзельнікі і арганізатары гэтага выступлення былі арыштаваны і аддадзены пад суд". Такія вось памяткі з азярычынскай мінуўшчыны.

А чаму, дарэчы, паселішча займела такую назву — Азярычына? Між іншым, спярша было крыху іначай — Азярычыны, без літары "а". Падобных назваў на Беларусі досыць шмат — Азер'е, Азярышча, Азярцы, Азяранкі, Азёрная... У аснове ўсіх назваў — слова возера: паселішча ля возера. Як быццам усё на паверхні. Хаця мясцовасць не такая ўжо азёрная... Ды, відаць, таямніца прыхавана ў далёкай-далёкай мінуўшчыне. У тым часе, калі і прырода ў гэтым краі была інакшая.

Сёння паўз Азярычына ўецца пакручастая, звілістая рэчка Пціч. Між іншым, у некаторых дакументах, як сведчыць слынны тапаніміст В. Жучкевіч, назву ракі і аднайменных паселішчаў пішуць як Бчичь. У XVI стагоддзі сустракаецца вёска Бчичская. Прычыны з'яўлення формы Бчичь невядомыя. Можна меркаваць, што яна ўтварылася дзякуючы асаблівасцям пісьменнасці таго часу, лічыць В. Жучкевіч. У сучасным напісанні ўяўляецца найболей верагоднай сувязь назвы са словам птушка ("птица"). Некаторыя даследчыкі адносяць назву да балтыйскіх.

Пціч — адна з цікавых, хаця і не дужа вялікіх, шырокіх рэк Беларусі. Даўжыня — 421 кіламетр. Цікавасць, мяркую, выклічуць некалькі іншых параметраў, на якія далёка не заўсёды мы звяртаем увагу. Паводле будовы даліна і рэчышча Пцічы падзяляюцца на 2 участкі: верхні (ад вытоку да в. Дараганава Асіповіцкага раёна, 203 кіламетры) і ніжні (ад в. Дараганава да вусця, Пціч упадае ў Прыпяць, 218 кіламетраў). Даліна ракі на ўсім яе працягу пераважна трапецападобная (шырыня ад 1,5 кіламетра да 5,5 кіламетра, у вытоку да 0,1 кіламетра), у нізоўі невыразная. Пойма двухбаковая, яе шырыня да вёскі Гарадзішча Мінскага раёна ад 60 да 300 метраў, ніжэй 1—3 кіламетры, каля в. Пясчанка Асіповіцкага раёна да 5 кіламетраў. Рэчышча месцамі разгаліноўваецца пратокамі, якія ўтвараюць астравы. Ёсць такі востраў і насупраць Азярычына. Між іншым, існуе параўнальна недалёка ад Азярычына, бліжэй да Рудзенска, вёска Востраў (за 3 кіламетры ад колішняга райцэнтра Рудзеншчыны). Востраў — радзіма Героя Савецкага Саюза Уладзіміра Лабанка, арганізатара партызанскага руху, вядомага дзяржаўнага дзеяча.

Але ж пра Пціч... Шырыня яе рэчышча ў верхнім цячэнні (да вусця р. Асачанка 85 кіламетраў ад вытоку) — 5—10 метраў, ніжэй — 20—45 метраў, у ніжнім цячэнні — 46—70 метраў. Азярычынцам, увогуле пухаўчанам цяжка і паверыць, што Пціч можа быць шырокай такой, да 70 метраў. У разводдзі характар паказвае і вузкая азярычынская, пухавіцкая Пціч. Частка вады з яе пераліваецца ў Свіслач праз Цітаўку. Здаўна Пціч паўсюдна, нягледзячы на шырыню рэчышча, была ракой-карміцелькай. І для азярычынцаў — таксама. Багатая на рыбу Пціч заўсёды вабіла рыбакоў.

Неглыбокая, яна давала як найболей шанцаў для выкарыстання самых розных рыбацкіх прыстасаванняў. Сам бачыў, як на Пцічы яшчэ пятнаццаць — дваццаць гадоў назад лавілі рыбу брэднем, крыгай, таптухай ды іншымі сеткамі. Так, мусіць, ловяць і зараз. Мо болей актыўна толькі пачалі выкарыстоўваць "павукі", "тэлевізары". Не забываюцца, вядома ж, на класічную вуду. І яшчэ нядаўна на Пцічы можна было ўбачыць традыцыйныя, хутчэй для мінуўшчыны, чым для сённяшняга дня, выдзеўбаныя з суцэльнага дрэва чаўны.

Гісторыя Азярычына калгаснага, савецкага часу не дужа розніцца ад гісторыі іншых населеных пунктаў. Хіба што трэба заўважыць наступнае. Сёння калгас ужо завецца не "Дэкада абароны", як калісьці ў 1930-я, а "Перамога". Няма ў Азярычына і "канторы" сельсавецкай. Як і няма таго, Азярычынскага, сельсавета, што існаваў з 1925 па 1954 год. Цяпер вёска ўваходзіць у Вузлянскі сельсавет.

Як адзнака ўдзелу азярычынцаў у Вялікай Айчыннай вайне — пастаўлены ў 1973 годзе помнік. Скульптура маці ў жалобе і стэла з прозвішчамі тых земля-

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

# СВЯТЛО І СПЕЎ МІЛАСЭРНАГА ХАРАСТВА

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Спектакль ідзе амаль дзесяць гадоў, і кожны раз артыст А. Мілаванаў у пакамечанай шапцы з некалі лакіраваным брылём пачынае спектакль як бы "ад імя тэатра". Паступова ён робіцца анатаўцам Тэўе. Прыглядаецца ўгару, туды, дзе "Той" — Вялікі Творца ўсяго існага і законаў, паводле якіх тое існае набывае то яву сапраўднага хараства, то ўвасабляе рэчаіснасць дзіўную і пачварную. Тэўе А. Мілаванава яшчэ можа мірыцца з тымі крыўдамі, якія чалавеку робіць чалавеку — сямейніку, суседу, госцю, пакупніку, але калі заканамернасцю жыцця з'яўляецца фатальны "парадак-лад", паводле якога ты нібы і народжаны для бясконцых і паўсюдных пакут, ён бурчыць. Спрачаецца. Абураецца. Распытвае "Таго" і самога сябе. Чаму дарослыя дочкі — і не сказаць, быццам такія ўжо дурныя! — выбіраюць кожная свой шлях, які зусім не стасуецца з бацькоўскім уяўленнем пра шчасце? Не дапамагаюць ні слёзы, ні мальба, ні праклён. Што Цэйтл, што Годл, што Хава — выкіне такую штуку, хоць кладзіся і памірай...

Нібыта зусім канкрэтныя сямейныя клопаты, гэтая надакучлівая "праблема" — бацькі і дзеці, ды яшчэ дзяўчыны прыгожыя, на выданні. Вакол кожнай нехта ды завіхаецца. У Анатаўцы самавітага жаніха днём з агнём не знайсці! І гэты роздум Тэўе ў спектаклі гучыць як падхопленая ім спрадвечная трывожная песня, якая не змаўкае ў бацькоўскім сэрцы ніколі. І тут — паэтычны тон відовішча кранае гледача лірычнай шчырасцю.

Поўныя светлага розуму і тужлівай сумоты позіркі кідае Тэўе ўгару: "Госпадзі, Божа літасцівы. Ты ж вялікі, відушчы і справядлівы, дык чаму гэткі парадак, што аднаму ты даеш усё, а другому — анічога? Аднаму ласункі ды пачастункі, другому — кара егіпецкая..." Бадай, адна-адзіная ўцеха была дадзена Тэўе — рахманая і міласэрная Голда. Такой жонкі ніхто не мае ні ў Анатаўцы, ні нават у Касрылаўцы! І яе забірае Бог. Многае зведана ўжо Тэўе, і гэта адчувальна перададзена ў ігры А. Мілаванава, але ён зноў і зноў спазнае... А што вы хочаце, на долю дасведчанага выпадае — гаварыць, на долю мудрага — услухоўвацца! І ён на сваёй скуры спазнае, што пчала можа даць табе мёду, можа і гэтак балюча ўджаліць. А хочаш мёду, дык лятай і збірай яго без стомы, працуючы да сёмага поту.

Тэўе — працуе. Як і жыве — сумленна. За што ж адабраў Бог у яго Голду?

Падчас спектакля мы не адзін раз чуем падобныя пытанні, на якія не бывае пераканаўчага адказу, і яны заўсёды інтрыгуюць, узбуджаюць цікавасць сваёй загадкавасцю. Кажуць, такімі пытаннямі чалавек наносіць драпінкі самой вечнасці як аўтографы заўжды неспакойнай асобы. А што для вечнасці твая драпінка! Ты сам пясчынка ў акіяне...

На сцэне ёсць яшчэ дрэва-асілак. Карчасты дуб. Моцны. Як сімвал сілы жыцця. Ды гэты дуб павалены. "Бо няўмольная рука Часу руйнуе ўсё, у што прыбрацца Час той паспявае" (Шэкспір).

Здаецца, Тэўе ўжо згаджаецца з тым, што жыццё анатаўцаў, якімі б крыўдамі яно ні азмрочвалася, усё ж гэта больш-менш плённыя намаганні аднавяскоўцаў жыць, калі не надта шчасліва, дык хоць бы ў міры і згодзе. Прыстойна. А пашанцуе, дык і Халімон танцуе. І вось у Анатаўку ўрываюцца прадстаўнікі ці то некалі славутай "чорнай сотні", ці то якога цяперашняга хаўруса ахоўнікаў расавай чысціні і ворагаў прышлага племені, гэтых ненавісных іншаверцаў ды чужаземцаў. На чале ваяўнічай зграі — раз'юшаная супраць "жыдоў" Дзяўчына (выдатная акцёрская работа А. Ельяшэвіч). Пагром і гвалт пануюць у Анатаўцы.

І тут глядзельная зала без падказак са сцэны ўспрымае мастацкія імпульсы асацыятыўнай думкі, якія неўпрыкмет для нас звязваюць у адно мінулае з сённяшнім. Падзяляючы многія максімы і парадоксы, выказаныя Тэўе з рознай нагоды, мы неяк нанава адчуваем непазбежную сувязь так званага "маленькага чалавека", "звычайнага" насельніка горада ці вёскі, такога, "як усе", з акаляючай сучаснай рэчаіснасцю. І вызваліцца ад пануючых забабонаў, асабліва тых, якія падтрымлівае і якім патурае афіцыйная ідэалогія, неверагодна цяжка. Мо і немагчыма. І калі не ашалелы ад злосці натоўп на чале з апантаным чарнасоценцам у спадніцы, дык царскі ўказ у руках анатаўскага Урадніка (гэтую ролю маляўніча іграюць па чарзе П. Дубашынскі і У. Кудрэвіч) пра высяленне яўрэяў з Анатаўкі, указ як квінтэсенцыя тамтэйшых грамадскіх забабонаў, пазбаўляе людзей права на самастойнае жыццё наогул.



Тэўе — як падкошаны, хоць не падае віду. Разам з усімі супляменнікамі ён ужо не тутэйшы насельнік, а мігрант, перасяленец. "Прыйшоў не званы, ідзі не гнаны", — гэта ён і сам казаў няпрошанаму візіцёру, дык жа ў яго тут жыццёвыя карані, тут магілы продкаў. Ах, калі б цар-гасудар не гартаў, а ўважліва ўдумваўся ў Біблію, то дайшоў бы розумам да падкрэсленага апосталам Паўлам у Пасланні да галатаў: няма ні эліна, ні іудзея, людзі нараджаюцца роўнымі, і чалавек ёсць вышэйшае стварэнне Вялікага Творцы! Ды ці знаёмы яны там, каля гасударава трона, з Бібліяй? Інакш не гналі б яны Тэўе, бы таго Агасфера ў вандраванне нявedама куды і навошта. Дык жа той быў асуджаны на вечнае блуканне за тое, што адмовіўся памагчы Хрысту несці на Галгофу крыж, з якім той ішоў на распяцце.

Ну, Агасферу наканавана чакаць другога прышэсця Хрыста, які здыме з яго заклятце. А Тэўе і яго землякам-супляменнікам... Які сэнс у іх прымусовым перасяленні Бог ведама куды і за што? Задайце, ваша міласць, пытанне якое лягчэйшае. Сэнс, сэнс... Гэтая старая лялька, як сказана Шэкспірам, — бы матрошка, дзе ў кожнай наступнай хаваецца тайна яшчэ больш загадкавая, чым папярэдняя. І не адзін Тэўе з вяршыні свайго спадзявання на прыстойнае жыццё ў благаслаўленнай, як здавалася раней, Анатаўцы падае напрасцяк у тваністую канаву — у рэальнасць. Нават Ураднік аніяк не ўцяміць, чаму і за што гэтых "пацешных інародцаў", гэтых яўрэяў, каля якіх і ён мог на халяву выпіць уволю альбо пашыць новы мундзір, сам... Яго імператарская вялікасць... гоніць адсюль... Ды ўказы, як той казаў, не абмяркоўваюцца, а выконваюцца.

Міжволі задумаешся, як гэта сталася ў свеце, што дзяржаўная ўлада, задуманая некалі як сацыяльны механізм, створаны людзьмі для людзей, іх жа саміх, людзей, дзівіць сваёй чыноўніцкай бесчалавечнасцю. І той, хто наважыцца перахітрыць законы і звычаі, тыя норавы, што пануюць тутака цяпер, звычайна альбо невылечны летуценнік, альбо безразважны рыцар накшталт Дон Кіхота. Ох, як ім спачуваў і як іх высмейваў Шолам-Алейхем! Такі тып атрымаў ад яго хадзячае найменне — "чалавек паветра".

І тэатр дае каларытны характар гэткага прэтэндэнта на штурм існуючых "парадкаў". Увесь унутраны лад Менахэма-Мэндла падначалены прыроднай здольнасці чалавека прыслухоўвацца да інстынкта самазахавання і ўсё ж пускацца на авантуры дзеля поспеху, дзеля багацця, дзеля славы або ўлады. Як п'яніць галаву жаданы, аблюбаваны ў марах поспех, той "паветраны замак", які паўстае перад табой такім прывідам спакусілівым! Паслухаць толькі Менахэма-Мэндла, ён не сёння, дык заўтра здабудзе грашовыя асігнацыі — мільён! — і тады... Першы выканаўца ролі Ю. Авяр'янаў і цяперашні М. Кірычэнка з вялікім тэмпераментным напорам раскрылі ў вобразе кранальна смешную мешаніну неабачлівага донкіхоцтва з хітрым прыстасаванствам, разважлівай кемнасці з нахабным гандлярствам. І сапраўды, сын, варты сваёй матухны, дзіўнаватай старой дамы, у ролі якой і непаўторна чароўная С. Станюта, і таленавітая З. Браварская дэманструюць віртуознае мастацтва эпізадычнага і такога ўражліва яркага існавання на сцэне. Жанчына, наіўная да глупства, бездапаможна даверлівая з прыкметамі былога прэстыжнага жыцця ў асяроддзі заможных правінцыялаў, маці ўсё яшчэ верыць, што ейнаму Мэндлу наканаваны шчаслівы шанц.

Цікава, як тэатр захоўвае пабытавую праўду ў яе мясцовым каларыце і адначасова, нібы ўскосна, намёкам, закранае агульначалавечыя матывы паводзін асобы ў пэўным асяроддзі. Яшчэ Бальзак заўважыў, што мы, бывае, ахвотна дазваляем узвышацца над намі, але вельмі рэдка даруем тым, хто не апускаецца да нашага ўзроўню. І ў светапоглядах, і ў маральна этычных прынцыпах, і ў разуменні чэснага імя... Што ні кажы, але беззаганная высакароднасць часта ўспрымаецца намі як маўклівы папрок у наш адрас. Папрок, які трывожыць наша сумленне, і гэта пазбаўляе цябе звыклага камфорту. Летуценны ветрагон Мэндл там і азмрочаны: ёсць жа і сярод ягоных аднавяскоўцаў такія, што гідзяцца пры адной думкі пра карыслівае прыстасаванства і хай сабе часовае халопскае прыніжэнне перад гаспадарамі жыцця.

— Як яго прозвішча? Юрка Авяр'янаў? А-адмысловы артыст. Ведаеш, я ў ролі Менахэма-Мэндла бачыў самога Веніяміна Зускіна. О, без пяці хвілін геній! Другі пасля Міхоэлса. І я скажу табе: гэны... як яго? Авяр'янаў тут — не горшы за яго. Жывыя інтанацыі ў яго паспешліва-азартнай мове і выдаюць у ім "чалавека паветра". Ён жа верыць самому сабе, сваім завоблачным фантазіям. А мара звабная — зрабіцца першым у забытай Богам Анатаўцы мільянерам! Таму і хвост трубой. Ад пагрозы банкруцтва адмахваецца, як ад мухі... Яго прозвішча? Юрка Авяр'янаў. З Лепеля? Ён не яўрэй? А, з Віцебшчыны. Значыць, зямляк...

Я спасылаюся на З. Азгура як на беспярэчны аўтарытэт у мастацтве, які быў яшчэ і вялікім тэатралам, каб памянуць яго добрым словам і прыгадаць дарэчы імя першага выканаўцы рол[illegible]енахэма-Мэндла. Пайшоў [illegible] нас Ю. Авяр'янаў пры так і нявысветленых абставінах, не атрымаўшы заслужанага ім ганаровага звання, затое паспеў пакінуць яркі след у творчасці Купалаўскага тэатра.

Надзвычай таленавіты А. Уладам[illegible] які таксама памёр заўчасна, радаваў гледачоў сваім мілым небаракам Мотлам. Кравец, які абшывае ўсіх анатаўцаў за нізкую цану, ніяк не ўзаб'ецца на капейчыну, і аддзячыць сваім добразычліўцам і нават родзічам можа толькі... абяцанкай: "Я вам ка-мі-зэль-ку пашыю..." Пасля А. Уладамірскага гэтую ролю пачаў не менш эфектна і маляўніча іграць шчодра надзелены талентам артыст В. Рэдзька.

Спектакль жыве і ўзбагачаецца новымі сцэнічнымі фарбамі і акцэнтамі, захоўваючы першасны — прэм'ерны! — пафас мастацкага відовішча. Мабыць, такой жывучасцю найбольш ён абавязаны цудоўнаму акцёрскаму дуэту памянёнага раней А. Мілаванава і актрысы Г. Талкачовай. Іхнія вобразы Тэўе і Голды — гэта вытанчаны псіхалагічны партрэт найцікавейшых людскіх асоб. Нават тыпаў. Яны і вядуць лейтматыў драмы "Памінальная малітва". Які дзівосны жаночы "варыянт Тэўе" атрымліваецца ў Г. Талкачовай, калі яе гераіня па-зямному цвяроза з дамесам сардэчна спагадлівага пачуцця ставіцца і да вясковага дзівака Сцяпана (артыст В. Філатаў), і да гэтага чыстасардэчнага вечнага няўдачніка Мотла, і да непадкупна шчырага Фёдара (В. Манаеў)... З усімі яна размаўляе, быццам ні аб чым не задумваецца, як птушка, а на самай справе — колькі душэўнага такту выпраменьвае яе душа. Вялікая духоўная энергія і светлы гонар сумленнай асобы працінаюць маналог, які папярэднічае яе смерці, у хвіліны апошняга звароту да тых, хто жыве і дае жыццё новым пакаленням. Род Тэўе не можа не доўжыцца, калі ў ім была такая моц і такое хараство матчынай волі.

Мо зусім не выпадкова слыны М. Бярдзяеў вызначаў мацярынства наступным чынам: гэта — касмічны пачатак клопату і аховы жыцця ад небяспек, якімі яму пагражае небыццё.

Даруйце, я патрывожыў цень надта зацытаванага цяпер, дзе трэба і не трэба, Мікалая Бярдзяева (а вышэй і Шэкспіра, і Бальзака, і Азгура) зусім не дзеля какецтва. Гэтыя цытатныя адгалінаванні ад размовы пра "Памінальную малітву", як мне здаецца, самі па сабе сведчаць пра глыбіню духоўнага зместу ў сцэнічным творы.

У Анатаўцы людзі спрачаюцца і мірацца. Кахаюць і здраджваюць адзін аднаму. Пазычаюць грошы і вяртаюць пазычанае, чым могуць. Глядзяць праз пальцы на раман вясковага залётніка і пляткараць пра суседа. Бавяць час у карчме і на досвітку зноў бяруцца за справы. От сабе звычайныя штодзённыя здарэнні і прыгоды: у таго сляза слязу гоніць, у гэтага сэрца заходзіцца ад прадчування, што вось-вось нападзе на залатую жылу, а той сцяной узнімаецца ў абарону пакрыўджанага... Абыдзеншчына, як той казаў. Морак будзённай рэчаіснасці. Дык чаго ж тады ў мяне, тэатрала са стажам, цяплее на душы, калі непрыступны анатаўскі багацей маўчун Лейзер-Вольф раптам мякчэе сэрцам і раскашэльваецца на карысць тутэйшай галоты? Чаму на вока наварочваецца няпрошаная сляза, калі няхітрае шчасце кахаць і быць каханым усміхаецца бедалазе Мотлу? Адкуль бярэцца мая радасць, агорнутая сумам, калі амаль адначасова Анатаўка святкуе вяселле маладых і рыхтуецца да выгнання тутэйшых "Агасфераў"?

Тым і чароўнае мастацтва тэатра, што і з грузнай жыццёвай калымагі, заваленай людскімі бедамі і неспадзяванымі радасцямі, здабывае і выводзіць у святло рампы добрае міласэрнае пачуццё ў арэоле сцэнічнага хараства. Яно, гэтае міласэрнае хараство, ахоплівае і яднае глядзельную залу.

...І зноў, быццам сам па сабе, круціцца ў танцы карагод. І за рукі бяруцца яны, анатаўцы: і пахмурны цынік, які ведае ўсяму на свеце цану, але не ведае, што такое сапраўдная каштоўнасць, і вясковы дабрадзейны мудрэц, і здатны на спачуванне чужому гору царскі ўраднік, і зайздросны ганарлівец, і закаханы летуценнік, і высакародны поп тутэйшай царквы, і прыцішаны рабін, і балбатлівы гандляр, і бесшабашная пляткарка, і цнатлівая нявеста, і пасаромлены вяскоўцамі мясцовы хвалько. Мільгацяць у ланцугу стракатыя хусткі, паласатыя андаракі, саматканыя світкі, мудрагелістыя камізэлькі, наглянцаваныя боты, святочныя чаравікі. Залівіста спяваюць скрыпкі, бубен б'е, звіняць бомы, і гармонік грае, грае... Хораша ўсё ж вось так — усім разам, у гурце, ка-лек-тыў-на зажыць шчаслівым настроем, зліцца ў агульным пачуцці. Хоць на дзень. Хоць на якую гадзіну. І тады маўклівай усмешкай прамянеюць твары, ззяюць вочы. Усмешка надзеі? Веры? Насцярожанага прадчування жаданай перамогі чалавечнасці тут, у Анатаўцы, і ва ўсім свеце? Але, царуе надзея. Бы тая зорка ў нябеснай бездані, што, і знікаючы назаўжды, пакідае пасля сябе зыркі хвост святла. Святла, якое доўга не гасне на гарызонце і яшчэ даўжэй захоўваецца ў тваёй памяці.

Такую "Памінальную малітву" дорыць гледачам Купалаўскі тэатр.

**Барыс БУР'ЯН.**

**НА ЗДЫМКУ:** народныя артысты Беларусі Валерый ФІЛАТАЎ (Сцяпан), Аўгуст МІЛАВАНАЎ (Тэўе-малочнік) і Галіна ТАЛКАЧОВА (Голда) у спектаклі Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы "Памінальная малітва" паводле Шолам-Алейхема.

# КАЛІ ЦВІЛІ АКАЦЫІ І ГУЧАЛІ НАКЦЮРНЫ,
## альбо
# ЗГАДКІ ПРА МАЛАДОСЦЬ АДАМА МІЦКЕВІЧА І ЯГО КАХАНУЮ МАРЫЛЮ ВЕРАШЧАКУ



Пра старадаўні парк Туганавічы, які знаходзіцца ў маляўнічай сэрвацкай даліне, непадлёку ад мястэчка Цырын, ведаюць многія.

Туганавічы! Іх з замілаваннем, а часта і з смуткам успамінаў Адам Міцкевіч, які сустрэў тут дзяўчыну, што запаліла ў яго сэрцы і душы прыгожыя пачуцці вялікага кахання.

* * *

Гэта адбылося даўно. Больш сотні гадоў. Быў 1818 год. Сёмуха. Вялікае свята вёскі. Тутэйшыя "ліцьвіны"-беларусы з Падгайнай і Карчовай амаль у адзін голас казалі:

— У нас весялейшай пары не бывае, — з засяроджанасцю апавядаў Ян Халупка, мой даўні прыяцель, настаўнік і калега па вучнёўскай парце Цырынскай школы, чые дзяды памяталі той далёкі час мінулага стагоддзя, калі тут актыўнічалі студэнты-"філаматы" (аматары навук) з Віленскага універсітэта. Сваю патрыятычную арганізацыю яны паважалі і яе праграму выконвалі добрасумленна. Дзеля гэтага наведвалі родныя мясціны, вывучалі патрэбы людзей, займаліся асветай, вывучалі свой край, каб затым расказаць іншым.

У Туганавічах, дзе ў тую пару было шмат садовай квецені і водару акацый, з самага ранку збіраліся маладыя дзяўчаты і хлопцы і весела гаманілі. Праз некаторы час яны ўважліва слухалі песні і музыку да іх, якія выконвала дачка пані Францішкі Верашчакі панна Мар'яна, каторую проста звалі Марыяй, або нават Марыляй. Яна прывіталася праз адчыненаыя вокны і заспявала:

**Благаславі, Божа,**
**твае дзеткі,**
**Пашу нашу і палеткі,**
**Блаславі ўсе людзі,**
**Няхай ўсім добра будзе!**

А затым зайграла накцюрны Ёгана Фельда, вялікага ірландца, чыёй свабодалюбівай музыкай захаплялася. Падыходзілі новыя групкі дзяўчат і хлопцаў, спыняліся блізка ля вокнаў сядзібы. Марыя ўсё іграла, іграла. Ад накцюрнаў яна перайшла да выканання паланезаў Агінскага і Касцюшкі. Потым зрабіла перапынак, каб падрыхтавацца да святочнага набажэнства, якое павінна было пачацца а палове адзінаццатай гадзіны.

Тым часам падыходзілі новыя людзі і шпацыравалі па галоўнай алеі парку і спыняліся ля альтанкі з ліп і шыкоўнай уніяцкай бажніцы, хаця самі звалі яе "капліцай пад гонтай".

Калі голас званіцы апавясціў аб пачатку ўрачыстасці, шаноўны святар Ян Гарбацэвіч з Цырына пакланіўся прысутным і пакрочыў правіць духоўную службу. Хор дзяўчынак і хлопчыкаў выканаў песню: "Божа, ты наш вечны пане!" У ціхім суправаджэнні скрыпкі чуліся асветніцкія словы святара. Ён напомніў аб трываласці і годнасці душы чалавека, што вышэйшы творца даў волю жыць і прыносіць радасць блізкім сваімі учынкамі, а розум — дзеля таго, каб здабываць праўду, сэрца — шанаваць хараство.

Святар сардэчна вітаў прыхаджанаў і панну Марыю Верашчаку, якая перад хуткім заканчэннем Пансіёна шляхетных дзяўчат прыехала з Вільні, каб прыняць удзел у туганавіцкіх урачыстасцях. Са смуткам было прыгадана імя Тадэвуша Андрэя Касцюшкі, які даводзіцца сваяком роду Верашчакаў, а ў мінулым годзе адышоў на вечны спачын у Швейцарыі. Марыя Верашчака хвалявалася. Бачна было, што яна перажывала ўсе падзеі, што датычыліся роднага краю, яго гісторыі, была чароўнай і сімпатычнай, усім цешылася: сваёй раднёй, роднай старонкай, Туганавічамі, якія абуджаюцца да актыўнага філамацкага жыцця дзеля карысных спраў сваёй бацькаўшчыны. Рада была, што просты люд глыбока шануе заслужаных людзей.

У гэтыя ўрачыстыя хвіліны Марыя Верашчака была надзвычай абаяльнай. Яна падабалася ўсім, найбольш, мабыць, маладому графу Путкамеру, які заслужыў прызнанне сваімі антыпрыгонніцкімі поглядамі, зацікаўленасцю ў паляпшэнні сялянскіх спраў.

— Гэты прыстойны кавалер з фальварка Вуніхова папрасіў рукі панны Марыі, — узрадавана паведамлялі дваровыя дзяўчаты Настуся і Крыся. Ад іх астатнія даведаліся, што панна Марыя і яе радня: маці Францішка з Анцупаў, браты Міхал і Юзаф — з прыемнасцю пагадзіліся парадніцца. Папрасілі толькі крышку пачакаць з сужэнствам, каб даць мажлівасць Марыі закончыць заняткі ў Пансіёне шляхетных дзяўчат у Вільні. Так адбыліся заручыны ў туганавіцкім двары.

* * *

У хуткім часе, 15 жніўня ў тым жа годзе, у туганавіцкія салоны завітаў Тамаш Зан, адзін з галоўных арганізатараў і кіраўнікоў Таварыства філаматаў, "прамяністых" і філарэтаў — "сяброў дабрачыннасці", разам са сваім лепшым сябрам Адамам Міцкевічам.

Менавіта Тамаш Зан, адчуваючы глыбокую сімпатыю да Марыі Верашчакі і яе радні, вырашыў пазнаёміць з гэтай высакароднай сям'ёю і свайго сябра Адама Міцкевіча.

Будучы адукаванай і інтэлігентнай паненкай, Марыя Верашчака павяла сябе прыстойна ў прысутнасці новага госця. Яна ахвотна наведвала ў кампаніі свайго брата Міхала навакольныя мясціны.

Разам яны пабывалі ў парафіяльнай святыні ў Вароньчы, у фальварку Плужыны, на возеры Свіцязь і ў былой сямейнай сядзібе бацькі паэта ў [illegible]сі, што непадалёку Калдычэўс[illegible] возера, у старасвецкім гмінным мястэчку Цырын, у маёнтку Асташын, дзе агледзелі Кальвінскі збор з старадаўнім магільнікам і многія іншыя мясціны роднага краю. Усюды разам была Марыя Вер[illegible]чака — "паненка на выданні, [illegible]аручана з маладым прыгожым [illegible]рафам". Часам і ён быў у таварыстве віленскіх сяброў. "Марыля", — часта так называў Міцкевіч сваю мілую сяброўку з Туганавіч.

Яна чаравала ўсіх сваёй шчырасцю, непасрэднасцю і акрылёнасцю. Часта даводзілася чуць ад сяброў філаматаў: "Марыя сама агарод засявала", "руплівай, стараннай была", "адчувае прыгажосць славяна-крывіцкага слова" (гэта значыць слова беларускага). У дадатак яна ведала французскую, нямецкую, польскую і італьянскую мовы, прыгожа спявала, захаплялася паэзіяй і музыкай.



"Ідэальная нявеста", — чулася з усіх бакоў. Яна прабудзіла каханне ў многіх філаматаў. Эпоха рамантычнага раю закончылася ў лютым 1821 года, калі Ваўжынец Путкамер і Марыля Верашчака ўзялі шлюб і выехалі ў Бальменікі, што пад Смаргонямі.

* * *

Туганавічы вялікі паэт не забываў ніколі. Ад колішняй сядзібы засталіся новыя маладыя парасткі дрэў, фундаменты пабудоў і галоўная памятка "Камень філарэтаў", які знаходзіцца ў туганавіцкім лесе. Сюды не забываюць прыйсці і пакланіцца памяці тых, каго ўжо даўно няма, а засталася добрая духоўная спадчына аб маладых, здольных сілах.

**Леў МІРАЧЫЦКІ.**

**НА ЗДЫМКАХ: Адам МІЦКЕВІЧ у школьныя гады (партрэт работы мастака В. Ваньковіча); Марыя ВЕРАШЧАКА (партрэт невядомага мастака); Туганавічы, галоўная сядзіба Верашчакаў.**

---

АМАЛЬ ШТО НЕВЯДОМАЯ ЭЛЬЗА ЗУБКОВІЧ

# КРАЙ МОЙ ВАСІЛЬКОВЫ

Беларускія жанчыны заўсёды былі адданымі сяброўкамі сваіх мужчын, самаахвярна адстойваючы поплеч з імі высакародныя ідэалы, плённа працуючы дзеля росквіту Радзімы. Вядома многа імёнаў такіх жанчын — ад А. Пашкевіч (Цёткі) да Л. Геніюш, ад П. Бадуновай да З. Тусналобавай. Не выключэнне з гэтага правіла і кампазітар Э. Зубковіч (1895—1983).

Лёс не асабліва песціў Эльзу Зубковіч (у дзявоцтве Пілеман). Гадавалася яна ў сям'і лекара. Музыку ствараць пачала з маленства. Так, яшчэ дзіцем напісала зборнік п'ес для фартэпіяна, які называўся "Дзіцячы музычны альбом". Жывучы ў Мінску, Эльза з поспехам — на выдатныя адзнакі — скончыла музычную школу (1914 год). Дзяўчына марыла цалкам прысвяціць сябе кампазітарскай творчасці, дзеля чаго і рыхтавалася паступаць у Мінскую кансерваторыю. Аднак, на вялікі жаль, на шляху адоранага чалавека ўзніклі нечаканыя перашкоды.

Пачалася першая сусветная вайна. Э. Пілеман стала сястрой міласэрнасці ў тым шпіталі, дзе яе бацька тады працаваў галоўным урачом. Адначасова яна працягвала атрымліваць музычную адукацыю: вучылася ігры на фартэпіяна ў прафесара Варшаўскай кансерваторыі (цяпер яго імя невядомае). Займалася творчасцю — пісала фартэпіянныя прэлюдыі. Грошы зарабляла, выступаючы як салістка на канцэртах камернай музыкі. Калі ж Мінск занялі немцы, то да 1920 года Эльзе прыйшлося акампаніраваць польскім спевакам падчас іх выступленняў. Зразумела, такая доля не магла задаволіць будучага кампазітара. І вось аднойчы сябар Эльзы, польскі музыкант, урач, грамадскі дзеяч нехта Урштэйн даў ёй добрую параду — паехаць вучыцца ў Германію.

З 1920 года Э. Пілеман жыла за мяжой, наведвала лекцыі ў Цюбінгенскім універсітэце, дзе слухала, акрамя іншых выкладчыкаў, знакамітага тады прафесара К. Гасэ. Вучылася выдатна, таму здолела паступіць у Берлінскую кансерваторыю ў кампазітарскі клас прафесара П. Юона. Ёй нават прызначылі стыпендыю. Але бліскучая кар'ера маладой творчай асобы зноў нечакана перарвалася.

Памёр бацька Эльзы, змянілася і палітычнае становішча на Радзіме. Трэба было здабываць сродкі на жыццё, каб матэрыяльна і маральна падтрымаць маці. Э. Пілеман вымушана экстэрнам здаць выпускныя экзамены за курс кансерваторыі, ужо ў 1922 годзе зрабіцца дыпламаванай (і высокакваліфікаванай) піяністкай-педагогам. Вярнулася ў Беларусь, уладкавалася на працу ў музычную школу і тэхнікум. Выйшла замуж, нарадзіла дзвюх дачок.

Але па-ранейшаму цягнула да сябе, вабіла музычная творчасць. Нягледзячы на шматлікія перашкоды, Эльза (цяпер ужо Зубковіч) развівала, рэалізоўвала свае здольнасці.

Пачынаючы з 1932 года яна працуе ў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, даследуе музыказнаўства. Была загадчыцай кафедры агульнага фартэпіяна, у 1934 годзе атрымала званне дацэнта. На лістапад 1941 года планавала абарону кандыдацкай дысертацыі па творчасці нямецкага кампазітара І. Брамса. Драматычныя падзеі Вялікай Айчыннай вайны чарговы раз перашкодзілі выкананню задум Эльзы Робертаўны. Лёс яе рэзка змяніўся...

Паколькі Э. Зубковіч была немкай, то яна апынулася ў сітуацыі цяжкага маральнага выбару. Пайшла працаваць перакладчыцай — роднымі лічыла і нямецкую, і беларускую, і рускую мовы. А з 1944 года разам з сям'ёй пасялілася ў Германіі. Муж Эльзы неўзабаве памёр, жанчына-кампазітар зноў сутыкнулася з матэрыяльнымі праблемамі. Шмат выкладала, прытым досыць плённа: так, выхавала Г. Штэгера, у далейшым славутага нямецкага выканаўцу-піяніста.

Вырашыла пераехаць у Злучаныя Штаты Амерыкі. Там паранейшаму была выкладчыцай музыкі, займалася музыказнаўствам, музычнай крытыкай. Друкавала ў замежных выданнях рэцэнзіі, давала канцэрты (акампаніравала на фртэпіяна дачцэ, спявачцы Л. Маркоўскай).

Э. Зубковіч з поўным правам магла ганарыцца тым, што зрабіла на ніве кампазітарскай творчасці. На яе рахунку зборнік апрацовак беларускіх народных песень, высока ацэнены В. Залатаровым. Праўда, рукапіс гэтай шматабяцаючай кнігі, які ўжо быў здадзены ў мінскі Дом друку, загінуў у першыя дні фашысцкай навалы. Даваенны перыяд адзначаны ў Эльзы Зубковіч і стварэннем вялікай колькасці рамансаў на вершы беларускіх паэтаў. Між іншым, многія з гэтых паэтаў былі беспадстаўна рэпрэсіраваны, таму творы маладога кампазітара на іх вершы на Бацькаўшчыне так і не ўбачылі свету.

Мелодыі некаторых рамансаў Э. Зубковіч усё ж выкарыстала ў сваёй уверцюры "Будаўніцтва". У пачатку 1930-х гадоў яе часта выконвалі падчас сельскагаспадарчых выстаў, што адбываліся ў Мінску. Ноты уверцюры былі беззваротна страчаны ў пачатку Вялікай Айчыннай.

Замежны перыяд творчасці аказаўся ў Эльзы Зубковіч не менш, а магчыма, і больш плённым. Тады былі напісаны шматлікія фартэпіянныя п'есы, у якіх шырока выкарыстоўваліся беларускія фальклорныя мелодыі. З. Зубковіч — аўтарка падручніка для піяністаў-пачаткоўцаў і зборніка п'ес "Першыя радасці" (абодва напісаны ў Германіі, зборнік п'ес выдадзены ў ЗША). Яна пісала фартэпіянныя рамансы, прэлюдыі, мініяцюры, стварыла фантазію "Бульба", апрацавала пяць беларускіх народных песень для канцэрта на Сусветнай выставе (Нью-Йорк, 1964 год). Сярод рамансаў ёсць напісаныя на словы Г. Ахматавай, А. Блока, Я. Коласа, А. Гаруна, Н. Арсенневай, М. Кавыля і інш.

З заходніх выданняў твораў Э. Зубковіч на першым месцы па мастацкім узроўні, паводле розных даследчыкаў (эміграцыйнага кампазітара А. Карповіча і інш.), знаходзяцца зборнікі рамансаў на вершы рускай паэтэсы І. Сабуравай "Осенние листья" (Нью-Йорк, 1972 год) і, канечне ж, беларускіх паэтаў "Край мой васільковы" (Нью-Йорк, 1972). Апошні з іх ведаюць многія аматары і знаўцы беларускай музыкі. Дарэчы, пазнаёміцца з ім можна ў адным з аддзелаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.

Як бачым, ніякія ўскладненні, выпрабаванні і г. д. не перапынілі Э. Зубковіч у дасягненні запаветнай мэты. Бо яна была надзелена, апрача ўсяго іншага, надзвычайнай сілай духу, воляй, загартаванасцю.

**Святлана ЯВАР.**

РОДАМ СА СЛАВУТАГА ЛАГОЙСКА

# КАНСТАНЦІН ТЫШКЕВІЧ

Тышкевіч — беларускі археолаг, гісторык, этнограф, адзін з заснавальнікаў беларускай навуковай археалогіі і Віленскай археалагічнай камісіі. Валодаў выключнымі арганізатарскімі здольнасцямі ў выяўленні археалагічных адкрыццяў. Атрымаў



шырокую вядомасць і прызнанне ў сусветным коле вучоных.

За сваю плённую шматгадовую працу ў галіне гісторыі, археалогіі і этнаграфіі Канстанцін Тышкевіч быў абраны ганаровым членам Імператарскай акадэміі навук у Пецярбургу, Каралеўскай акадэміі навук Швецыі ў Стакгольме, Інстытута археалогіі ў Лондане, шматлікіх навуковых айчынных і замежных археалагічных таварыстваў Прагі, Парыжа, Кракава, Масквы, статыстычных камітэтаў Вільні і Мінска, членам Усходняга Амерыканскага таварыства.

Нарадзіўся К. Тышкевіч 5(17) лютага 1806 года ў заможнай сям'і ў мястэчку Лагойск Мінскай губерні. Першапачатковую адукацыю атрымаў у бацькоўскім доме. Затым вучыўся ў славутай у той час Полацкай школе езуітаў. У 1828 годзе скончыў Віленскі універсітэт, адкуль быў накіраваны на працу ў Варшаву ў якасці чыноўніка Міністэрства фінансаў. Вярнуўся на радзіму ў 1836 годзе, з гэтага часу пастаянна жыў і працаваў у родным Лагойску, дзе і памёр 1(13) ліпеня 1868 года.

К. Тышкевіч сумесна з братам Яўстафіем (1814—1873) даследаваў каля 200 курганоў, гарадзішчаў і замчышчаў Мінскай губерні. Склаў першыя тапаграфічныя планы гарадзішчаў. Так, ім былі зняты планы замкаў у Заслаўі, Чашніках, Уле, Лагойску, Рудніку (у вёсцы Рудня), Панізоўі, Свідне, Дабрынёве, Баравым Млынку, Сукромне, Біржах (у Літве). Навуковая вартасць такіх планаў відавочная, таму што фіксуецца не толькі месца знаходжання даследуемага аб'екта, але і ў пэўнай меры адлюстроўваецца яго стан таго часу. Навуковая дзейнасць К. Тышкевіча і яго брата Яўстафія дазволіла ім больш актыўна весці работу па выяўленню, сістэматызацыі і публікацыі помнікаў гісторыі і культуры, карпатлівы збор, апрацоўка, навуковы аналіз і наступнае выданне дакументаў уносілі пэўны ўклад у развіццё айчыннай гісторыі як навукі, дазвалялі па-новаму асвятляць мінулае свайго краю. Станоўчая роля братоў-археолагаў у тым, што яны накапілі велізарны фактычны матэрыял, які не страціў сваёй каштоўнасці і ў наш час. Яны назвалі "ўмацаваныя замкі", "ахвяравальныя гарадзішчы", "акопныя судзілішчы", межавыя знакі і курганы (тумулюсы) і засяродзілі сваю ўвагу на вывучэнні апошніх. К. Тышкевіч нават склаў археалагічны "Атлас старажытных гарадзішчаў, замкавых гор і скопішчаў на Літве і Літоўскай Русі" (так называлі тады Заходні край Русі), які ў 1859 годзе ім быў прадстаўлены ў Археалагічнае таварыства Масквы.

К. Тышкевіч увесь час клапаціўся аб прапагандзе сабраных ім беларускіх старажытнасцей. Нават звяртаўся ў Маскву з просьбай адкрыць там этнаграфічную выставу, куды ў 1867 годзе ім упершыню былі прадстаўлены матэрыялы археалагічных раскопак у выглядзе ілюстраванага альбома знаходак. Тады К. Тышкевіч быў выбраны ганаровым членам Маскоўскага археалагічнага таварыства. Ён даследаваў і апісаў старажытнасці амаль усяго Паўночна-Загодняга ўзвышша Міншчыны. У працах па вывучэнню курганных могільнікаў Мінскай губерні К. Тышкевіч першы прымяніў перадавую ў той час методыку даследавання і першым звярнуў увагу на гарадзішчы як на самастойныя віды археалагічных помнікаў.

Археалагічныя знаходкі братоў Тышкевічаў і паклалі пачатак стварэнню ў 1842 годзе першага ў Беларусі гісторыка-археалагічнага музея ў сваім родав[illegible] змесці Лагойску. Сабралі к[illegible]ўны архіў старажытных рукапісаў, калекцыю мастацкіх твораў і унікальную бібліятэку.

Уклад К. Тышкевіча ў развіццё навукі археалогіі цяжка пераацаніць. Вынікі сваіх даследаванняў ён апублікаваў у польскім [illegible]тыднёвіку "Пшыяцель люду", [illegible]даваўся ў польскім горадзе Лешна. На старонках гэтага выдання вучоны паведамляў пра археалагічныя знаходкі VI стагоддзя, пра пахавальныя абрады на Русі і на землях крывічоў дахрысціянскага перыяду. У 1858 годзе і таксама на польскай мове выйшла ў Вільні кніга К. Тышкевіча "Помнікі айчыннай гравюры", матэрыялам для якой паслужыла асабістая калекцыя, у якой налічвалася 220 гравюр толькі літоўскіх і беларускіх мастакоў XVII—XVIII і пачатку XIX стагоддзяў, а таксама гравюры, выкананыя ў Англіі і Францыі. У прадмове да гэтай кнігі аўтар расказвае пра развіццё гравюрнага мастацтва ў Беларусі.

У 1859 годзе выйшла ў Вільні на польскай мове другая кніга — "Звесткі аб замках, гарадзішчах і старажытных курганах на Літве і Літоўскай Русі". Вялікі артыкул "Аб курганах у Літве і Заходняй Русі" К. Тышкевіч змясціў у газеце "Виленский вестник" за 1865 год у нумарах 112—117, а таксама ў часопісе "Вестник Европы" за 1866 год, т. 2. ч. II. Тут жа дадзена і станоўчая рэцэнзія на гэты артыкул. У 1865 годзе ў Вільні выйшла ў свет трэцяя кніга К. Тышкевіча ўжо на рускай мове "О курганах на Литве и Западной Руси" з 12 вялікімі ўкладкамі-ілюстрацыямі. У 1868 годзе гэта каштоўная манаграфія была перавыдадзена ў Берліне на польскай мове ў выпраўленым і дапоўненым выглядзе з 16 цудоўнымі графічна выкананымі табліцамі, на якіх адлюстраваны розныя прадметы старажытнасці. Адзін раздзел гэтай кнігі прысвечаны цікавым знаходкам-знакам старажытнай пісьменнасці славяняцвягаў, знойдзеным у 1864 годзе ў рацэ Буг каля горада Драгічын Брэсцкай вобласці мясцовым жыхаром Амбражэўскім і дастаўленым Тышкевічу ў колькасці 20 штук. Гэта былі пломбы са славянскімі літарамі, як відаць, гандлёвыя пячаткі X—XIV стагоддзяў у выглядзе свінцовых пласцінак акругленай формы рознай велічыні — ад 5,5 да 10 міліметраў.

Аб археалагічных курганных знаходках К. Тышкевіч апавядаў у газеце "Новое время", якая выдавалася




Адамам Кіркорам у Пецярбургу ў 1867—1871 гадах. У гэтай жа газеце за 1868 год у нумары 137 К. Тышкевіч змясціў артыкул з малюнкамі-ілюстрацыямі сваіх знаходак.

У Гістарычным архіве Літвы ў Вільнюсе аб Тышкевічах захоўваецца вельмі багаты матэрыял, які выдзелены ў асобны фонд Тышкевічаў.

**Савелій АКУЛІЧ.**

**НА ЗДЫМКАХ: Канстанцін ТЫШКЕВІЧ; адна з прац К. Тышкевіча "Вілія і яе берагі", 1871.**



**Мініяцюра — адзін з найскладанейшых відаў мастацтва керамікі. Мастак-кераміст Таццяна Шубіна тонка адчувае магчымасці матэрыялу, мае пачуццё гармоніі і багатую фантазію. Усё гэта закладзена ў яе мініяцюры. Яны поўныя жыцця і аптымізму.**

**Жыве і працуе Таццяна Сямёнаўна ў Гродне, дзе вучыць мастацтву лепкі з гліны навучэнцаў Палаца дзіцячай і юнацкай творчасці.**

**НА ЗДЫМКУ: мастак-кераміст Таццяна ШУБІНА.**

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БелТА.**

(Заканчэнне. Пачатак на 5-й стар.).

коў, што загінулі ў вайне. Усяго 173 прозвішчы.

З ураджэнцаў Азярычына як асобу знакамітую хацелася б згадаць імя напаўзабытага сёння пісьменніка. У 1911 годзе, 4 мая па новым стылі, нарадзіўся празаік Пятро Рунец (памёр жа зусім нядаўна, трохі болей як год назад. Скончыў у 1924 годзе мясцовую пачатковую школу, паступіў у Самахвалавіцкую сямігодку. Пасля — настаўніцтва, зноў вучоба, журналісцкая праца, вайна. Першая кніга Пятра Рунца — "Юныя змагары" — пабачыла свет у 1940 годзе. З рэцэнзіямі на зборнік выступілі Рыгор Мурашка (у часопісе "Полымя рэвалюцыі") і Хвядос Шынклер (у газеце "Літаратура і мастацтва").

# АЗЯРЫЧЫНА І ВАКОЛІЦЫ

Наступная кніга — "У веснавыя дні" — з'явілася толькі ў 1954 годзе. І ўжо да нашых дзён — яшчэ амаль два дзесяткі кніг. Многія творы Пятра Рунца перакладаліся на іншыя мовы — на абхазскую і армянскую, грузінскую і казахскую, кіргізскую, латышскую, рускую, узбекскую, украінскую, эстонскую. І сам Пятро Рунец шмат перакладаў на беларускую мову. У асноўным — дзіцячую літаратуру. Але сярод здабыткаў земляка азярычын[illegible] ёсць і самы галоўны. У [illegible]ыя пасляваенныя гады ра[illegible]ам з Янкам Маўрам Пятро Рунец сабраў кнігу "Ніколі не забудзем". Укладзеныя пад адну вокладку апавяданні дзяцей вайны ўражваюць, працінаюць болем сэрца і зараз.

[illegible] 1903 годзе ў Азярычыне [illegible]дзілася Алена Юркевіч. Званне Героя Сацыялістычнай Працы жанчыне прысвоілі ў 1950 годзе — за высокія ўраджаі кок-сагызу. Была і такая папулярная культура ў аграрнай гісторыі нашай краіны. Бюст руплівай працаўніцы вылепіў нават сам Заір Азгур.

Нарадзіўся ў Азярычыне і вядомы сучасны мовазнаўца, даследчык беларускай фразеалогіі Зміцер Санько. Зараз ён працуе галоўным рэдактарам мінскага выдавецтва "Тэхналогія", дагэтуль быў галоўным рэдактарам выдавецтва "Навука і тэхніка", заснаваў там цікавую кніжную серыю "Нашы славутыя землякі".

Азірнёмся на азярычынскія вуліцы. Нейкіх дзесяць-пятнаццаць хвілін на машыне па дарозе да чыгункі, да станцыі Седча — і мы трапляем у Вузляны. Цэнтр агульнага з Азярычынам сельсавета — Вузлянскага. Той жа Вадзім Жучкевіч наступным чынам тлумачыць паходжанне назвы: "...балтыйскага паходжання, эквівалент тэрміну гаць — насціл з жэрдак на балотнай дарозе. Назва супастаўляльная з літоўскім ujlas — насціл з жэрдак". Па сведчанню Г. Дулеба, Вузляны некалі належалі віленскім епіскапам. У XIX стагоддзі Вузляны былі сялом Пярэжырскай воласці Ігуменскага павета, з'яўляліся ўласнасцю Копэця і Лапы. На пачатку 1880-х гадоў у сяле было 73 двары, 624 жыхары, праваслаўная царква. Што цікава, на пачатку XX стагоддзя на месцы сучасных Вузлян знаходзіліся 2 населеныя пункты з аднайменнымі назвамі. У адной вёсцы было 75 двароў, 502 жыхары. У другой — 76 двароў, 570 жыхароў. Побач — ізноў жа з назвай Вузляны маёнтак памешчыцы Копэц (3 двары, 67 жыхароў), а яшчэ і мястэчка Вузляны, дзе пераважную большасць з 867 жыхароў складалі яўрэі. У мястэчку працавалі праваслаўная царква, сінагога, паштова-тэлеграфнае аддзяленне. У 1903 годзе адчынілася ў мястэчку царкоўнапрыходская школа.

Крывавым радком напісана біяграфія Вузлян часоў Вялікай Айчыннай вайны. Як сведчанне таму — магілы і помнік. Помнік землякам — у цэнтры вёскі, пастаўлены ў 1968 годзе. Ёсць і брацкая магіла каля будынка праўлення мясцовага калгаса. Пахавана 90 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — і воіны 48-й арміі 1-га Беларускага фронту, загінулі пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

4 ліпеня 1944 ля Вузлян адбыўся жорсткі бой. За 3 гадзіны батарэя капітана Антона Леанцюка адбіла 6 варожых контратак, знішчыла шмат жывой сілы праціўніка і баявой тэхнікі. Будучы параненым, капітан Леанцюк не пакінуў поле бою. Камандзіру батарэі і сяржантам Я. Курачкіну, А. Чарняку, Д. Чэпусаву, малодшаму сяржанту В. Токараву прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Васілю Токараву, які пахаваны ў Мар'інай Горцы, — пасмяротна.

Ёсць ля Вузлян маленькая рэчанька. Завуць яе людзі Ушанка альбо Вушанка. У "Блакітную кнігу Беларусі" чамусьці занесена як Вуж, з дапаўненнем — Вушанка. З'яўляецца левым прытокам згаданай ужо намі Пцічы. Даўжыня — да 12 кіламетраў. А пачатак Ушанкі — за 2,5 кіламетра ад Седчы.

Рэчышча на ўсім працягу каналізаванае — адмеціна меліярацыі, асушэння.

З іншых азярычынскіх, вузлянскіх ваколіц — вёска Пяскі. Праўда, на Пухаўшчыне два населеныя пункты з такою назвай. Ёсць яшчэ разы ў тры большыя Пяскі ў Голацкім сельсавеце (колішняя Пярэжырская воласць). Вузлянскія ж Пяскі — з 12 хат і ўсяго з 20 з нечым жыхароў.

Едліна — колішні фальварк Дудзіцкай воласці. А сёння зусім "не перспектыўная" вёска Вузлянскага сельсавета.

Багатая гісторыя пухавіцкага краю складзена з гісторыі ўласна кожнага населенага пункта. Іх, вёсак, у Пухавіцкім раёне зараз болей як 300. І летапіс кожнай з іх — фрагмент у гісторыі не толькі Пухаўшчыны, але і ўсяе нашай Айчыны.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 284-76-56, 213-37-82.



Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 1 835 экз. Індэкс 63854. Зак. 1191.
Падпісана да друку 13. 07. 1998 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.